# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1972
Ліпень-Жнівень

Год XX
№ 4 (132)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1972 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Yer XX** **July—August** **№ 4 (132)**

**1972**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XX ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ № 4 (132)

*а. Тамаш Падзява*

# Хрыстовая гадзіна

Усе чатыры эвангелісты згода пераказалі адну ідэю, якая дазваляе нам заглянуць у самае сэрца хрысьціянства і ўбачыць, чым яно розьніцца ад усіх рэлігіяў і філязофіяў. Гэта ёсьць ідэя г. зв. «Хрыстовае гадзіны» — часіны, хвіліны . . .

Сьвяты Ян падае нам першы факт, якога сам быў сьведкам, калі Хрыстос на вясельлі ў Кане сказаў першы раз: «Яшчэ ня прышла мая гадзіна» (Ян. 2, 4). А сказаў гэта ў адказ на просьбу сваёй Маткі учыніць мэсыянскі цуд. І перамяніўшы ваду ў віно, Хрыстос, (а гэта было ўжо фігурай Эўхарыстыі) даў толькі прарочы знак. Затое ў Вялікі Чацьвер, як перадае той самы сьв. Ян, Хрыстос пачаў сваю сьвятарскую малітву ад слоў: «Ойча, прышла гадзіна, услаў Сына Свайго, каб Сын Твой мог уславіць Цябе . . . (Ян 17, 1). І яшчэ Ян разказывае, як раз жыды шукалі, каб узяць Хрыста, але ніхто не ўсклаў на Яго рукі, «бо яшчэ ня прышла гадзіна Ягоная» (Ян 7, 30). Але, калі Юда прышоў да грамады апосталаў, Хрыстос сказаў: «Вось прыблізілася гадзіна і Сын Чалавечы выдаецца ў рукі грэшнікаў» (Матэй 26, 45).

Пытаньне: Чаму Эвангельле так націскае на нейкую «гадзіну»? А таму, што гэта ёсьць факт, калі ў гэты наш сьвет уваходзіць у Асобе Хрыста іншы сьвет, Божае Валадарства! Гэта ёсьць сьвятая акцыя-дзейнасьць, Божая служба, сьвятая Літургія ў Вялікі Чацьвер.

Дык толькі гэтым Хрыстос розьніцца ад усіх прафэсараў, заканадаўцаў і творцаў філязофіі. Бо Ягоная місія ня была толькі ў тым, каб навучыць чалавецтва некалькіх праўдаў аб Богу, аб сьвеце дый аб нас самых, хоць Ён і ў гэтым даў нам больш ад усіх мудрых настаўнікаў ці маралістаў. Але Ён прыйшоў, каб перамяніць і нас і сьвет пры помачы Божага дзеяньня, якога ніякі створаны розум ня мог ані прадбачыць ані нават уявіць. Бо, напрыклад, па сьмерці Сакрата людзі могуць ужо больш ведаць аб сьвеце, чым маглі да яго. Але пасьля Хрыстовае сьмерці перамянілася сама рэчаіснасьць ад пачатку да канца!

Ня было такога народу ад часу, як людзі пачалі думаць, у якім ня было-б пераканаиьня, што людзі патрабуюць **ратунку.** І сьвятары ўсіх рэлігіяў абяцалі людзям помач з неба. А філязофы думалі, што чалавеку досыць, каб пазнаў свае хваробы, каб адразу й выздаравець. Аднак сумны канец чыста чалавечых рэлігіяў, як і няздольнасьць філязофіі споўніць свае прырачэньні, выявілі ілюзіі, на якіх яны апіраліся.

Нашае зло — гэта ня ёсьць толькі памылка, якую можна паправіць, як думаў добры чалавек Плятон. Яно ёсьць фактам, перад якім дух аказываецца бясільным. І ня толькі людзкі дух, але й ніякая іншая сіла гэтага сьвету, як паказалі паганскія рэлігіі, ня можа нічога зрабіць са злом, якое бярэ свой пачатак у іншым сьвеце. Зло ёсьць у самой душы ад пачатку дый пасьля зло спатыкаецца і перамагае дабро, бо існуе няволя, ў якую душа трапіла праз сваё засьляпеньне. А з гэтае няволі душу мог выкупіць толькі Нехта мацнейшы ад Князя гэтага сьвету.

Адсюль мы бачым, як важная ёсьць тая «гадзіна», калі прыходзіць гэты Наймацнейшы. І гэтая «гадзіна» дзеліць усю чалавечую гісторыю дакладна на дзьве часткі: першая, калі паднявольнае чалавецтва служыць сіле варожай. Другая, калі чалавецтва вызваляецца і годзіцца з Богам!

—✦—

Дык што здарылася ў Вялікі Чацьвер? — у тую «гадзіну», аб якой Хрыстос казаў, пто дзеля яе прыйшоў на гэты сьвет. І ўся Літургія гэтага дня паказвае нам на гэтую гадзіну, як на неспадзяваную калізію дзьвюх працi-

легласцяў, бо Сам Хрыстос назваў гэтую сваю гадзіну, кажучы жыдам: «Цяпер вашая гадзіна і ўлада цемры» (Лука 22, 53). І Літургія гэтага дня ўспамінае здраду Юды, які прадаў Настаўніка і гэтым папхнуў Яго на сьмерць. І ўспамінае Лука, што Хрыстос, даючы паламаны хлеб і пралітае віно, сваім вучням, як Сваё Цела і Сваю Кроў, разьдзеленыя ў дабраахвотнай ахвяры, устанавіў Эўхарыстыю, як падарунак са свайго жыцьця, аддадзенага дабравольна за сваіх прыяцеляў. «І як настала гадзіна ... ўзяўшы хлеб, аддаў хвалу, паламаў, даў ім, кажучы: Гэта ёсьць Цела Маё, што за вас выдаецца. Гэта тварыце на памятку маю. Таксама чару па вячэры: — Гэтая чара ёсьць Новы Запавет у Крыві Маей, што за вас праліваецца.» (Лука 22, 14—18).

А на Хрыстовы крыж можна глядзець з двух бакоў, якія аднак узаемна дапаўняюцца і асьвятляюцца.

З аднаго боку гэта было забойства, якога дапусьціліся людзі: найперш Юда Іскарыёт і жыдоўскія старшыні, а далей і ўвесь жыдоўскі народ. А пасьля і ўсе грэшныя людзі. А за гэтым усім тая «ўлада цемры», якая іх апанавала і пакіравала імі да такога вялізарнага злачынства!

Калі-ж глянуць на крыж з другога боку, дык гэта была Хрыстовая ахвяра.

З першага пункту ахвяра выглядае чыста вонкавай канечнасьцяй, якой Хрыстос ня мог абмінуць — і гэтак думалі жыды, калі блюзьнілі: «Калі Ён — Сын Божы, дык няхай зыйдзе з крыжа і паверым у Яго!» (Матэй 27, 42).

Але з другога боку — гэта сувэрэнны і свабодны акт Хрыста, аб якім Ён Сам казаў: «Я аддаю жыцьцё сваё ... Ніхто не бярэць яго ад Мяне, але Я Сам аддаю яго. Я маю ўладу аддаць яго ... Я атрымаў гэтае разказаньне ад Айца Майго». (Ян 10, 17—18). І гэта абазначае Вячэра, на якой Хрыстос устанавіў Эўхарыстыю. З аднаго боку — перамога злога духа: «гадзіна Валадара цемры», а з другога боку — сувэрэнны акт Хрыста: «Гадзіна Сына Чалавечага». Супярэчнасьць тут толькі ўяўная, бо Хрыстовая ахвяра была змаганьнем на сьмерць з уладай Цемры, як умова каб пагадзіць людзей з Богам. Дык Хрыстос дапусьціў, каб тая ўлада Цемры накінулася на Яго, хоць Ён мог адным сваім словам адагнаць і перамагчы яе. Гэтак трэба разумець словы сьв. Паўла: каб тая улада распазнала «у Хрысьце Госпада славы, дык яна ніколі Яго ня ўкрыжавала-б. Як сказаў Хрыстос Пілату« «Ты ня меў-бы ніякае ўлады, каб табе ня было дадзена з вышы» (Ян 19, 11).

Каб ворагі ў ненавісьці ня былі засьлепленыя і каб ведалі, што робяць, дык нізашто не скарысталі-б з сваей моцы і з магчымасьці. Яны павінны былі-б убачыць, якой падманлівай была іхняя перамога. Сьмерць і жыцьцё спаткаліся ў змаганьні: Валадар жыцьця, памёршы, жыве; а ворагі, забіўшы яго, муседі загінуць і згубілі свой народ.

І тут мы знаходзім выясьненьне таго цяжка зразумелага факту, што ў пасхальнай Літургіі крыж ня ёсьць знакам паразы, але перамогі Хрыстовае. Як гаворыць сьв. Павал: «Я ня буду хваліцца, хіба адно крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста.» (Гал. 6, 14).

Ня інакш глядзеў на свой крыж і Сам Хрыстос, калі казаў у сваей сьвятарскай малітве: «Ойча, прышла гадзіна, услаў Сына Свайго, каб Сын Твой мог уславіць Цябе» (Ян 17, 1). Гэтай славай Хрыста і быў крыж. І для першых хрысьціянаў крыж быў неразлучны ад Узьнясеньня да неба, якое было ня ўзнагародай за крыж, але вынікам і дапаўненьнем, так што яны ўваскросшага Хрыста часам малявалі на крыжы. Цяжка было-б у гэта паверыць, калі аддзяляць Вялікі Чацьвер ад Вялікае Пятніцы. У Валікую Пятніцу дзеюць мучыцелі, а Хрыстос толькі церпіць. Але ў Вялікі Чацьвер мы бачым ня толькі Юду, але і Хрыста, які Сам ахвяруе Сябе дабравольна на жэртву за людзей. У тую гадзіну, калі Хрыстос пад знакам Эўхарыстыі выступіў як чэмпіён чалавецтва ў змаганьні са злым духам. А для нас гэта ня ёсьць толькі ўспамін гістарычнага факту, але рэальнае перажываньне, якое і нам дае магчымасьць прыймаць удзел у Хрыстовым змаганьні. Пачаўшы сваю барадзьбу пад знакам Эўхарыстыі, Хрыстос даў людзям Тайну-Сакрамант, які адтварае для іх гэтую тайну і ўстанаўляе ўвесь парадак таінстваў. Бо ўсе таінствы ўжо заложаны ў Эўхарыстыі таму, што ў ёй ёсьць крыжовая сьмерць Збавіцеля; а таінствы — гэта толькі розныя аспэкты ейных вынікаў, якія Хрыстос асягнуў для нас. Так уся хрысьціянская Літургія ёсьць паўтарэньнем Хрыстовай містэрыі, у якой Ісус Хрыстос церпіць, паміраў і ўваскрасае, каб адабраць дэману ўладу над людзьмі, і пагадзіць іх з Нябесным Айцом.

— ✦ —

Тайная Вячэра мела падвойны вынік: яна была аднаразовай і апошняй Вячэрай Хрыста

з Апосталамі і адбылася толькі раз на заўсёды. Але яна была яшчэ пры гэтым рытуальнай цэрэмоніяй, якая ўсьцяж паўтараецца. I ўся тайна ёсьць у тым, што гэтыя два вынікі злучаны з сабой неразьдзельна ў аднэй толькі акцыі, якой ёсьць рытуальнае паўтараньне таго, што адбылося на Апошняй Вячэры. Ад тае пары над усёй гісторыяй чалавецтва будзе панаваць той факт збаўленьня, якім была дабравольная сьмерць Бога, што стаўся чалавекам. А з гэтае сьмерці нарадзілася «новае стварэньне», якое праз крыж, аднойчы пастаўлены на сьвеце, патрапіць ужо абнавіць усе рэчы і падзеі.

Хрыстос сказаў на Апошняй Вячэры: «Гэта ёсьць маё цела, якое за вас даецца» і «гэта ёсьць мая кроў, якая за вас праліваецца». Калі яны ўбачылі ў сьвятле таго Духа, які адчыняе вочы сьляпым сэрцам тое, чаго тады яшчэ не разумелі, яны прызналі пад відам хлеба і пад чарай, якую перадавалі з рук у рукі, крыж, якога перад тым ня бачылі, а які быў ужо ім блізкім. I ў крыжы яны адкрылі Божую інтэрвэнцыю, якая пяруном перасекла ўздоўж усяго гарызонту чалавечае жыцьцё, безнадзейна зьняволенае грэхам і сьмерцяй.

«Хрыстос, уваскросшы, ужо не паміраз», піша ў лістах сьв. Павал. А ў Пасланьні да Жыдоў разьвівае такую ідэю: «Хрыстос зьявіўся не на тое, каб Сябе ахвяраваць шмат разоў, як гэта рабіў Архірэй, які штогод уваходзіў з казьлінай і з цялячай крывёю ў сьвятое месца. Але Хрыстос раз увайшоў са сваею крывёю ў неба, каб адтуль прыпамінаць нам вечную актуальнасьць свайго крыжа. I ратуе нас не паўтараньне обраду, а наш удзел у ахвяры Самога Хрыста. Ён не звальняе нас ад абавязку рабіць тое, што за нас учыніў. Не звальняе нас ад маральнага намаганьня, каб скінуць няволю грахоў, памёрці для Яго і каб жыць жыцьцём Уваскросшага!

—✦—

На гэтым можна было-б і закончыць гэтыя разважаньні. Але нам трэба парушыць справу збаўленьня-ратунку ў такім аспэкце, які сучаснамоу чалавеку зразумець ня лёгка. А з нашых разважаньняў вынікае, што галоўным аспэктам Хрыстовага ўчынку, які кожная Пасха загадвае аднаўляць, ёсьць барадзьба, што сьв. Павал так дакладна сфармулаваў: «(Хрыстос) Скасаваўшы рукапісы пастановаў на нас, што былі супроці нас, Ён адхінуў іх, прыбіўшы да крыжа. Разброіўшы княствы і ўладу, выставіў іх прынародна на паказ, перамогшы іх Сабою» (Калёс, 2, 24—15),

Дзеля таго, што злы дух запанаваў подступам над чалавекам, а праз чалавека і над сьветам, Хрыстос прышоў, каб здабыць ад пекла ўладу, паламаўшы ягоную зброю, значыць, грэх і сьмерць, і гэтак устанавіць нанова над усім стварэньнем Божае Валадарства. Хрыстос перамог грэх, трымаючыся стойка супраць дэмана й ягоных спакусаў аж да сьмерці на крыжы, да якога прыбіла Хрыста пякельная сіла. А перамог сьмерць, устаючы з гробу, дзе пабожныя жанчаны, яшчэ маніліся Яго памазаць алейкамі.

Дык вось гэты спосаб прадстаўленьня Хрыстовай справы выдаецца дзіўным многім з сучасных людзей. Роля вызначаная дэману, каб паказаць ягоную ўладу над сьветам, шмат каму не падабаецца. Многія хрысьціяне адыходзяць ад Царквы, бо забываюцца, што трэба верыць у Бога, каб Яму служыць, а каб служыць чарту, дык трэба ня верыць у яго. На гэтым злы дух і выйгрывае. На шчасьце царкоўная Літургія ясна выказвае, якой была вера і жывая практыка Царвы. Хрыстос быў, ёсьць і заўсёды будзе пераможцам сьмерці таму, што Ён ёсьць пераможцам пекла — рэальнага, а не фантастычнага. I Літургія не дазваляе нам бачыць у крыжы прыкладу кары, што выклікае спачуваньне нявіннаму Хрысту. Бо Хрыстовы крыж — гэта зброя непераможная ў тым змаганьні, як кажа сьв. Павал: «Нашая бітва ня з крывёю і з целам, але супраць княстваў і ўладаў дый супраць паноў сусьветнай цемры, супраць духаў злосьці ў паднябесных прасторах» (Эфэс. 6, 12).

Калі падумаць, хто і з кім змагаецца, дык стане ясным, што гэта не абыякое змаганьне! Зброя якая паканае ворага — гэта крыж і гэта значыць паслухмянасьць — без адмовы служыць. I гэта значыць — вынішчыць у сабе эгаізм праз любоў, якая забываецца аб сабе. I сутнасьць хрысьціянства ў тым, што трэба ўсьцяж змагацца! Бо й гэта вызначае Сам Хрыстос: «Хто не са Мною, той супраць Мяне і хто ня зьбірае са Мною, той рассыпае». (Матэй 12-30). А Хрыстовае змаганьне — гэта змаганьне чалавека з самым сабой і з дэманам у Духу Хрыстовым, Які дае помач на змаганьне з пеклам, каб чалавек мог перамагчы зло. Пэўна, што ў гэтым замаганьні людзі падзеляцца адны супраць другіх: «Я ня прынёс мір, але меч», казаў Хрыстос. Бо чорт змагаецца пры помачы сваіх нявольнікаў, **як**

гэта мы бачым на прыкладзе Самога Хрыста. І тыя, якіх Хрыстос вызваліў, будуць вызваляць іншых, што яшчэ астаюцца ў няволі дэмана — грахох. ваюючы Хрыстовай зброяй, крыжам.

Сіла, якую чорт асягнуў над людзьмі, была такая вялікая, што толькі крыж мог яе перамагчы! І мала хто з хрысьціянаў ведае, што Царква плача ў Вялікім Тыдні, шкадуючы не Самога Хрыста, але ягоных забойцаў, якімі ёсьць усе грэшнікі, нявольнікі пекла. Бо і Хрыстос казаў: «Дочкі ерусалімскія, не плачце нада Мною, але плачце па самых сабе і па дзецях сваіх» (Лука 23, 28), Бо крыж для Хрыста ня быў паражэньнем, але быў перамогай, якую Ён ня толькі прадбачыў, але дабраахвотна выбраў. Хто ня ведае пра гэта, той наагул не разумее Хрыста і ягонага крыжа, бо крыж выганяе дэмана з ягонага валадарства.

---

*а. Ф. Журня*

# Беларускія рэлігійныя выданьні XIX—XX ст. ст.

Праца, якую складальнік прапануе ўвазе чытачоў, зьяўляецца першай спробай беларускай рэлігійнай бібліяграфіі. У яе ўвайшлі творы рэлігійнага характэру — каталіцкія, праваслаўныя і пратэстанцкія — на беларускай мове, выдадзеныя друкам або ратэтарным спосабам ад пачатку XIX стагоддзя да сёньняшняга дня.

Пры ўкладаньні бібліяграфіі складальнік карыстаўся ў першую чаргу кніжнымі фондамі беларускай бібліятэкі ім. Францішка Скарыны ў Лёндане. Многія творы аднак асталіся для яго недаступнымі, і яны вядомы яму толькі з вестак у беларускай прэсе і з бібліяграфічных, даведнікаў агульнага характару, як напр. «Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 г.» М. Панькова (Нью-Йорк 1952).

Складальнік будзе ўдзячны за ўсе заўвагі і дапаўненьні, якія просіць прысылаць на адрас «Божым Шляхам».

—✦—

Скарочаньні.

| | |
|---|---|
| б. в. | бяз выданьня |
| б. м. | бяз месца выданьня |
| БАПЦ | Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква |
| Кат. | каталіцкі |
| Л. | лацінскі шрыфт |
| Прав. | праваслаўны |
| Прат. | пратэстанцкі |
| Р. | ратэтарнае выданьне |

Пры часопісах падаецца год пачатку і спыненьня выданьня. Працяжнік пасьля даты азначае, што выданьне працягваецца. Працяжнік з пытальнікам азначае, што год спыненьня выданьня няведамы.

1. А. В. (Адважны Вінцук — а. Язэп Гэрмановіч). Як Казюк сабраўся да споведзі. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 68 с. Л.
2. —. Казюковае жанімства. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 78 с. Л.
3. — Бэтлейка. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1932. 16 с. Л.
4. — Унія на Палесьсі. Вершаваная дыскусія уніята, праваслаўнага манаха і рыма-каталіцкага ксяндза. Альбэртын, Ісусавае таварыства, 1931. 16 с.
5. А. М. (Архіеп. Апанас Мартос). Матэр'ялы да гісторыі Беларускай Праваслаўнай Царквы (Пэрыёд савецкай і нямецкай акупацыі Беларусі). Нямеччына, 1948. 138 с. Р.
6. А. М. (Архімандрыт Мадэст Яцкевіч). Закон Божы. Новы Запавет. Мэльбурн, БАПЦ, 1960. 39 с. Р.
7. — Стары Запавет. Мэльбурн, БАПЦ, 1960. 37 с. Р.
8. Даведкі з гісторыі аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Мэльбурн 1960. 9 с. Р.

* * * АБРАНТОВІЧ Фабіян. Гл.: М. А.

9. АДАМС Г. пастар. Пратэстантызм. (Пераклаў з ангельскай мовы і выдаў пастар Я. Пятроўскі). Лінц, 1948. 7 с.

* * * АДВАЖНЫ Вінцук. Гл.: А. В.

10. АДОЗВА беларускіх праваслаўных япіскапаў да беларускай праваслаўнай эміграцыі. Нямеччына, 1947. 5 с.
11. АДОЗВА да праваслаўных беларусаў. Выдалі беларускія праваслаўныя аўтакефалісты па справе ратаваньня БАПЦ. Нямеччына, 1947. 2 с.
12. АКАФІСТ перад цудоўным Жыровіцкім абразом Божай Маці. Дынголфінг Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, 1948. 16 с.
13. АКАФІСТ да сьв. Афрасіньні, кн. Полацкай,

апякункі і прасьветніцы зямлі беларускай. Фленсбург, Праваслаўнае Жыровіцкае Брацтва, 1949. 23 с. Р.

14. АНДРЭЙ БАБОЛЯ сьв. Вільня, «Беларус», 1913. Л.

15. АНІСЬКО Д. Усё для міласьці. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1933. 52 с. Л.

16. —. Для чыйго дабра? Да справы беларускай мовы ў касьцеле. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1934. 15 с. Л.

17. АСІПЧЫК-АСІПОВІЧ А. Цудатворны абраз Жыровіцкай Маці Божай і Жыровіцкі манастыр. Гістарычны нарыс. Баварыя, 1957. 31 с. Прав.

18. — — — Новы Запавет Ісуса Хрыста. Падручнік для школьнай моладзі. Фленсбург, Жыровіцкае Праваслаўнае Брацтва 1949. 64 с.

* * * АСТРАМОВІЧ Аляксандар, кс. Гл.: ЗЯЗЮЛЯ Андрэй.

19. АФАНАСІ еп. (Апанас Мартос). Бог — усёмагутная сіла, якая стварыла сьвет. Турхэйм, «Зьвіняць званы сьвятой Сафіі», 1946.

20. — — — Стары Запавет. Падрушнік закону Божага для сям'і і школы. Кніга І. Ватэнштэт, Беларускі дапамаговы камітэт, 1947. 64 с. Прав. Р.

21. БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР на 1932 год. Вільня, «Беларускі Рэлігійна-грамадзкі Саюз». 64 с.

22. БЕЛАРУСКІ КАЛЕНДАР на 1933 год. Вільня, Выд. Я. Малецкага. 100 с.

23. БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ КАЛЕНДАР на 1939 г. Вільня, Выд. кнігарні «Пагоня». 122 с.

24. БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЕНДАР на 1960 г. Мэльбурн, БАПЦ. (46 с.). Р.

25. БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЕНДАР на 1961 г. Мэльбурн, БАПЦ. 55 с. Р.

26. БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР на 1968 год. Нью-Ёрк, Епарх. Укр. БАПЦ, 1967. 123 с.

27. БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР на 1968 год. Нью-Ёрк, Епарх. Упр. БАПЦ, 172 с.

28. БОБІЧ Ільдэфонс, кс. Нядзельныя эвангеліі і навукі. Пад рэд. кс. Ад. Станкевіча. Тры часткі. Вільня, «Крыніца», 1921—22.

29. БОГ І БАЦЬКАЎШЧЫНА. Вершы патрыятычнага і рэлігійнага зьместу для беларускіх дзяцей і моладзі. Сабраў Я. Пятроўскі. Лінц, 1946. 32 с. Прат. Р.

30. БОЖАЯ ЛІРА. Хрысьціянскія духоўныя песьні. Мэтадыстаў беларускіх сьпеўнік з нотамі. Вільня, П. А. Акц. Супалка «Саутэрн Трэйд», 1930. 204 с. Прат.

31. БАЖАЯ ЛІРА. Хрысьціянскія духоўныя песьні. Мэтадыстаў беларускіх сьпеўнік. Вільня, П. А. Акц. Супалка «Саутэрн Трэйд», 1936. 186 с.

32. БОНЧКОЎСКІ, кс. Кароткае аб'ясьненьне абраду Рыма-Каталіцкага Касьцёла. Пераклаў з польскай мовы Х. Вільня, «Беларус», 1914. 64 с. Л.

33. БУДЗЬКО Фр., кс. Неколько слоў аб пакуце. Вільня, «Беларус», 1914. Л.

34. БЫЛІНА Я. (кс. Я. Семашкевіч). Песьні жальбы. Набожныя разважаньні мукі і сьмерці Збаўцы нашага Езуса Хрыста. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1929. 16 с. Л.

35. — — — Дарога крыжа. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1930. 32 с. Л.

37. ВЯЛІКОДНАЯ ВЯЧЭРНЯ І ПАСІЯ. Кліўленд, выд. архіеп. Андрэя Крыта, б. д. 12 с. Прав. Р.

38. ГАДЛЕЎСКІ В., кс. Гісторыя сьвятая або біблійная Старога Закону. Вільня. Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1930. 156 с. Л.

39. — — — Гісторыя сьвятая біблійная Новага Закону. Вільня, Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1933. 186 с. Л.

40. ГАРОШКА Леў, а. Аб паходжаньні чалавека ў сьвятле сучасных знахадкаў. Парыж, Беларуская рэлігійная місія, 1948. 14 с.

41. — — — Душа. Кароткі апалёгетычны нарыс. Парыж, Беларуская рэлігійная місія, 1948. 31 с.

42. — — — Сьв. Еўфрасіня-Прадстава Полацкая, патронка Беларусі. Парыж, Беларуская рэлігійная місія, 1950. 79 с.

* * * — — — Гл.: ЖМЕНЯ Анатоль

43. ГОРЖЭНЯЛЬСКІ В. Касьцельныя песьні з нотамі. 1917. 30 с. Л.

44. ГЭРМАНОВІЧ Язэп, а. Кітай-Сібір-Масква. Успаміны. Мюнхэн 1962. 292 с.

45. — — — Пакутныя псальмы. Рым, «Зьніч», 1964. 22 с. Л.

46. — — — Прыповесьці паводле Эвангельля Матэя, Марка, Лукі, Яна. (Лёндан, «Божым Шляхам», 1970). 23 с.

* * * — — — Гл.: А. В.

47. ДВОРНІК Фр. Жыцыцё сьв. Вацлава. Вільня. Л.

48. ЁРГЭНСЭН І. Прыповесьці. Рэлігійна-філязафічны нарыс. Пераклад кс. П. Т. Вільня, «Беларуская крыніца», 1926. 55 с. Л.

49. ЖМЕНЯ Анатоль (а. Леў Гарошка). Кветкі і церні жыцьця. Зборнік апавяданьняў. Парыж 1967. 220 с.

50. ЗАГІНУЎ ЦІ СПАСЁНЫ. Лодзь, «Компас», 1932. 12 с. Прат.

51. ЗАДУМА П. (кс. Пётр Татарыновіч). Купальле. Апавяданьне. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1930. 70 с. Л.

52. ЗЯЗЮЛЯ Андрэй (кс. Аляксандар Астрамовіч). З роднага загону. Вільня, «Беларус», 1914. Л.

53. — — — З роднага загону. Зборнік вершаў.

З прадмовай Ад. Станкевіча. Вільня, Выд. кс. Я. Семашкевіча, 1931. 175 с. Л.

54. (Каз. Найловіч). Сьвяты Рым. Вільня, «Хрысціянская Думка». 1931. 65 с. Л.

55. ——— 31-шы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1933. 55 с. Л.

56. КОНСТЫТУЦЫЯ Кангрэгацыі Айцоў Мар'янаў. Параклаў з лацінскай мовы а. Я. Гэрмановіч. Вільня 1934.

57. КАНТЫЧКА, або сабраньне набожных песень для ужытку каталікоў беларусоў. Вільня, Баларускае Выдавецкае Таварёства, 1914. 64 с. Л.

58. КАНТЫЧКА. Сабраньне набожных песень. Вільня, «Беларуская крыніца», 1926. Л.

59. КАРОЛЬ Анатоль. Кароткі нарыс гісторыі Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім (Пэрыяд XI-XVI ст.). Нью Брансвік 1957. 94 с. Р.

60. КАСЯК І. З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага Народу. Нью-Ёрк, Беларуская Цэнтральная Рада, 1956. 191 с.

61. КАЦІХІЗІС або навука веры. Мэльбурн, БАПЦ, 1960. 24 с. Прав. Р.

62. КНІЖАЧКА БЯЗ СЛОЎ. Лёндан, б. д. 2 с. тэксту. Прат.

63. КРУТКЕ ЗЭБРАНЕ наукі хшэсьціянскей для весьнякув мувёнцых ензыкем польско-рускім вызнаня жымско-католіцкего. Вільня 1835. Л. (Тэкст кнігі на беларускай мова).

64. КЭМПІЙСКІ Тамаш. Сьледам за Хрыстусам. Пераклаў з лацінскай мовы Ст. Грынкевіч. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1934, 288 с. Л.

65. ——— ——— Выданьне другое без зьмен. (Амэрыка, выд. кс. Фр. Чарняўскага, 1971). 176 с. Л.

66. КЭМПЭР Дайтон П. А. Крэвіч-Блянкруссія. Абятніца, якую даў Пан Езус Хрыстус бл. Марыі Маўгажаце Алякок. Амэрыка 1892. I с.

67. М. А. (а. Фабіян Абрантовіч). Чалавек. Філязафічна-грамадзкі нарыс. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1929. 16 с. Л. (Адбітка з «Хрысьціянскай Думкі»).

68. ——— Бог. Філязафічны нарыс. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 24 с. Л. (Адбітка з «Хр. Дум.»).

69. МАЛІТВА да Маці Божай. Вільня-Кракаў 1913. I с. (гл. Карскі, Беларусы, III, 3, с. 167).

* * * МАРТОС Апанас, архіеп. Гл.: А. М. і АФАНАСІ еп.

70. НАДСОН Аляксандар, а. Сьвяты Кірыл Тураўскі. Лёндан, «Божым Шляхам», 1968. 110 с.

* * * НАЙЛОВІЧ Каз. Гл.: К. Н.

71. НАЎЗОРНАЯ (першая) Імша Сьвятая Літургія паводля абноўленага абраду з беларускай мовай. На ўжытак прысутным на цэлебры ўдзельнікам. Рым, «Зьніч», 1965. 15 с. Л. (Пераклад кс. Пятра Татарыновіча).

72. НОВЫ ЗАПАВЕТ. Падручнік па Закону Божым для беларускіх пачатковых і сярэдніх школ. Ватэнштэт, Дапамаговы камітэт, 1948. 52 с. Прав.

73. НЯЙТРАЛЬНАГА месца няма. Разважаньні рэлігійнага зьместу. Лодзь, «Компас», 1927. II. с. Прат.

74. ОМАНЬКОЎСКА. Прадка пад крыжом. Пераклад С. Пяюна. Вільня 1939. Л.

75. ОФФІЦЫЮМ Найсьвяцейшай Дзевы Марыі Непакалянага зачацьця. (Гадзінкі). Вільня, Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1935. 16 с. Л. (Перадрук з «Голасу душы»).

76. ПАМІНАЛЬНІК. Торонта, Беларуская Праваслаўная Царква сьв. Еўфрасіньні Полацкай, 1959. 23 с.

77. ПАСЛАНЬНЕ Апостальскага Адміністратара і Візытатара да каталікоў беларусаў на чужыне. Нямеччына 1946.

78. ПАСЛАНЬНЕ Мітрапаліта Панцелеймана да духоўнікаў і вернікаў. (Супроць тварэньня БАПЦ). Нямеччына 1948.

78. ПАЎЛОВІЧ С. Сьвяшчэнная гісторыя Старога Завету. Вільня, выд. аўтара, 1926. 164 с. Прав.

80. ——— Сьвяшчэнная гісторыя Новага Завету. Падручнік для беларускіх школаў і самаадукацыі. Варшава 1936. 152 с. Прав.

81. ——— Першая навука Закону Божага з беларуска-славянскім букваром. Варшава 1936. 164 с. Прав.

82. ПАЧОПКА Б. кс. Чалавек на вышыні сваей годнасьці. «Беларус», 1914. Л.

83. ——— Жыцьцё папежа Піюса X. Вільня, «Беларус», 1914. Л.

84. ——— Бог з намі. Беларускі малітэўнік Вільня, «Беларус», 1915. 246 с. Л.

85. ——— Сьвяты Ёзафат. Вільня, «Гоман», 1916. 16 с. Л.

86. ——— Як вучыць жыць і верыць сьв. Хрыстовая Паўсюдная Царква. Вільня 1932. Л.

87. ПЕСЬНІ НАБОЖНЫЯ. Варшава 1861. (Гл.: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. II, Мінск, 1969, с. 53).

**88. ПІЙ XII.** Энцыкліка з нагоды 350-х угодкаў Берасьцейскай Уніі. Пераклад з лацінскай мовы. Рым, Беларуская Рэлігійная Місія, 7 М 1946. 27 с.

89. ПРАВАСЛАЎНЫ МАЛІТВАСЛОЎ на царкоўна-славянскай і беларускай мове. Варшава 1935. 48 с.

90. ПРАВАСЛАЎНЫ МАЛІТАЎНІК. (Паўн. Амэрыка), БАПЦ, 1966. 66 с.

91. ПРЫПОВЕСЬЦЬ ПРА БЛУДНАЛА СЫНА. (Лукі 15). Лодзь, «Компас», 1927. 36 с. Прат.

92. РАДЫ ДЛЯ МАТАК. Вільня, «Беларус», 1914. Л.

93. РАМАНОЎСКІ Базыль. Першыя малітвы і пазнаньне хрысьціянскай веры. Менск 1918. 32 с. (Гл.: Карскі, Белорусы, III, 3, с. 166).

94. РУЖА. Падручнік Ружанцовага аб'еднаньня для беларусаў. Улажыў кс. П. Татарынэвіч. Рым 1949. 30 с. Л.

95. РЭШЭЦЬ Я., кс. Кароткі катэхізм для беларусаў каталікоў Вільня 1927. 47 с. Л.

96. — — — З гісторыі апалягетыкі хрысьціянскай. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 104 с. Л.

97. — — — Сьвятыя. Кніжка I. Львоў-Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1937. IV, 123 с. Л.

98. САХАР. Евангельскі хрысьціянскі сьпеўнік. Ватэнштэт, «Сябрыня», 1946. 35 с.

99. СВАЯК Казімір (кс. Кастусь Стэповіч). Мае думкі. Вільня 1914. Л.

100. — — — Мая ліра. Вільня, Беларускае Выдавецкае Таварыства, 1924, 112с.

101. — — — Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1932. 71 с. Л.

102. СЕМАШКЕВІЧ Я., кс. Ружанец Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 35 с. Л.

* * * — — — Гл.: БЫЛІНА Я.

103. СКАРЫНА Фр. Прадмовы і паслові. Мінск, «Навука і тэхніка», 1969. 238 с.

104. СЛУЖБА БОЖАЯ або сьв. Літургія сьвятога Яна Хрызастома, а таксама некаторыя дадатковыя малітвы на розныя нагоды і ўрачыстасьці ды штодзенныя пацеры. Апрацаваў В. П. Чыкаго 1958. 150 с. Р.

105. СПАСЕНЬНЕ, ПЭЎНАСЬЦЬ І РАДАСЬЦЬ. Атлянта, б. д. 23 с. Прат.

106. СТАНКЕВІЧ Адам, кс. Родная мова ў сьвятынях. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1959. VII, 152 с. Л.

107. — — — Казімер Сваяк. Нарыс яго ідэалёгіі (у 5-я ўгодкі сьмерці). Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1931. Л.

108. — — — Божае слова. Лекцыі, Эвангеліі і прамовы на нядзелі і сьвяты. Вільня, Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1938. 372 с. Л.

109. — — — Патрабнейшыя выняткі з Рытуалу. На беларускую мову пераклаў і выдаў кс. Ад. Станкевіч. Вільня 1943, 31 с. Л.

111. — — — Вучыся і маліся. Малітаўнік вучня каталіка. Для вучняў Беларускай Віленскай гімназіі і Беларускай Віленскай вучыцельскай сэмінарыі. Вільня 1944, 96 с. Л.

112. СТЭПОВІЧ Кастусь, кс. Голас душы. Малітвеннік для беларусаў — каталікоў. Мову паправіў, прыгатаваў до друку і выдаў коштам «Беларускай крыніцы» кс. Ад. Ст-іч. Вільня 1926. 3-- с. Л.

113. — — — Голас душы. Кніжка да набажэнства для беларусаў-каталікоў. Другое выданьне, папраўленае і дапоўненае (кс. В. Гадлеўскім). Вільня, Беларускае Кталіцкае Выдавецтва, 1934. 317 с. Л.

114. — — — Гогас душы. Падручнік жыцьцяпрактыкі рэлігійнай для беларусаў. Выданьне IV папраўленае і дапоўненае (кс. П. Татарыновічам). Рым 1949. 320 с. Л.

* * * Гл.: СВАЯК Казімір.

115. СЬВЯТЫЯ ВІЛЕНСКІЯ МУЧАНІКІ Антон, Іван і Астап — патроны Беларусі. Вільня 1926. 12 с. (Адбітка з Беларускага праваслаўнага Календара на 1927 г.).

116. ТАРАСЭВІЧ Я., кс. Зло і лякарства на яго. Рэлігійны хрысьціянскі нарыс. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 32 с. Л.

117. — — — Беларусы ў сьвятле праўды. Тэолёгічны, нацыянальны нарыс. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1935. 40 с. Л.

118. ТАТАРЫНОВІЧ Пётр, кс. Сьв. Ізыдар хлебароб. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1928. 31 с. Л.

119. — — — Календарык для беларускай моладзі.

120. — — — Шляхам дзіваў і ўражаньняў. Зацемкі з падарожы ў Рым. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1934. 72 с. Л.

* * * — — — Гл.: ЗАДУМА П.

121. УНУК Вінцук (а. А. Падзява). Добрым Бог памагае. Вільня, «Хрысьціянская Думка», 1939. 72 с. Л.

122. УСПАМІНАЛЬНАЯ Кніжка. Брадфорд, БАПЦ, б. д. 2 с.

123. УСПАМІНЫ З КАЛЬВАРЫІ. Праваднік па Віленскай Кальварыі. Вільня, Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1935. 23 с. Л.

124. ФІЛЁХОЎСКІ Р., кс. Кароткі катэхізм да прыспасабленьня дзяцей да першай споведзі і сьв. Камуніі. Пераклаў з польскай мовы Х. Вільня 1907. 32 с. Л.

125. ЦУДОЎНАЯ НОЧ. П'еса вершам для дзіцячага тэатру. Пераклаў Я. С. Вільня, «Беларуская крыніца», 1928. Л

126. ЧЭЛЬЦОЎ Г. Аб'ясьненьне сымбалаў веры, малітваў і запаведзяў. Вільня 1918. 80 с. Прав. (Гл.: Карскі, Белорусы. III, 3, с. 166).

127. ШУСТЭР, кс. Кароткая гісторыя сьвятая. Пераклад Х. 80 с. (Гл.: «Беларус», № 13, 1914).

128. ШУТОВІЧ В., кс. Кароткая гісторыя сьвятая. Пераклад Х. 80 с. (Гл.: «Беларус», № 13, 1914).

128. ШУТОВІЧ В., кс. Маёвая чытанка. Вільня, Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1939. 144 с. Л.

129. ШЫЛЬГЭН Г. Ты і яна. Пераклаў і апрацаваў Васіль Друя (Ч. Сіповіч). Парыж, Беларуская Рэлігійная Місія, 1950. 110 с.

130. ЕЛЕМЭНТАЖ ДЛЯ ДОБРЫХ ДЗЕТОК КАТАЛІКОЎ. Варшава, Чэсл. Левіцкі, 1862. 40 с. Л.

131. ЭЛЕМЭНТАЖ ДЛЯ ДОБРЫХ ДЗЕТОК КАКАТАЛІКОЎ, 1906. 24 с. Л. (Гл.: Карскі, Беларусы. III, 3, с. 166).

132. ЮНКЕР П. Г. Што мне выдаецца ў мэтадызме асабліва поўнавартасным. Збеларушчыў Я. П. Лінц. Эвангеліцкае душпастыства, 1948. 10 с. Р.

* * * ЯЦКЕВІЧ Мадэст, архім. Гл.: А. М.

Дапаўненьні.

133. БОЖЫМ ШЛЯХАМ. Малітаўнік для беларусаў. Рым 1946. 176 с.

134. ІМША ВОТЫЎНАЯ у-ва ўсякай патрэбе паводля абноўленага абраду з беларускай мовай. Рым, «Зьніч», 1966. 4 с. Л. (пераклад кс. П. Татарыновіча).

135. ПАНУЦЭВІЧ Вацлаў. Сьв. Язафат архіяп. Полацкі. 1623—1663. Чыкаго 1963. 255 с. Л. Р.

Сьвятое Пісьмо.

* * * БОЖАЕ СЛОВА. Гл.: СТАНКЕВІЧ Адам, № 108.

136. КНІГІ СТАРОГА ЗАПАВЕТУ. Кніжыца I. Кніга Руты, Кніга прарока Ёэля, Кніга прарака Ёны. Нью-Ёрк 1959. 17 с. (Пераклад Я. Пятроўскага).

137. НОВЫ ЗАКОН Спадара а Спаса нашага Ісуса Хрыста. Пераклаў з грэцкай мовы Я. Станкевіч. Нью-Ёрк, Вялікалітоўскае (Беларускае) Навуковае Таварыства, 1970. 260 с.

138. НОВЫ ЗАПАВЕТ Госпада нашага Ісуса Хрыста і ПСАЛЬМЫ. Гэльсінкфорс, Брытанскае і Замежнае Біблейскае Таварыства, 1931. 354 с. (Пераклад Антона Луцкевіча).

139. — — — Другое выданьне без зьмен. Лёндан 1948.

* * * НЯДЗЕЛЬНЫЯ ЭВАНГЕЛІІ. Гл.: БОБІЧ Ільдэфонс, № 28.

140. ПАВОДЛЕ ІОАНА сьв. Эвангельле. Лодзь, «Компас», б. д. 62 с. (Пераклад Ант. Луцкевіча).

141. ПАВОДЛЕ МАРКА сьв. Эвангельле. Лодзь, «Компас», 1928. 51 с. (Перакл. Ант. Луцкевіча).

142. ПАВОДЛЕ МАРКА сьв. Эвангельле, Гэльсінкі- б. д. 31 с. (Перакл. Ант. Луцкевіча).

143. ПАВОДЛЕ МАЦЬВЕА сьв. Эвангельле. Лодзь, «Компас», 1927. 80 с. (Перакл. Ант. Луцкевіча).

144. ПРАКІМЭНЫ 8-і гласаў, Апосталы і Эвангельлі ў беларускім перакладзе для літургічнага ўжытку ў нядзелі і сьвяты. (Лёндан 1967. 150 с. Р. (Пераклад а. Л. Гарошкі).

145. СЬВЯТАЯ ЭВАНГЕЛІЯ і Апостальскія Дзеі. Пераклаў і падаў выясьненьні кс. Пётр Татарыновіч. Рым 1954. 633 с. Л.

146. ЧАТЫРЫ ЭВАНГЕЛІІ і Апостальскія Дзеі. Перапажыў і падаў выясьненьні кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Вільня 1939. 417 с. Л.

ЧАСАПІСЫ

1. АДРАДЖЭНЬНЕ. Часапіс беларусаў каталікоў. Рэгэнсбург-Кам, 1947 (№ 1-3) — 1948 (№ 1-3). Л. Р.

2. БЕЛАРУС. Тыднёвая каталіцкая газэта. Вільня 1913—1915. Л.

3. БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ПАРАФІЯ сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто. Месячны бюлетень. 1959—?. Р.

4. БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА. Чыкаго, 1956—1965 (№ 1-29). Кат. Р. Мяшаны шрыфт.

5. БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ АРТАДАКСАЛЬНАЯ СУБОЖНЯ. Рэд. У. Рыжы-Рыскі. Нью-Йорк 1960 (№ 1, 2) — ?. Прат. Р.

6. БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ ЧАСАПІС. Чыкаго 1961—1962 (№ 1, 2). Р.

7. БЕЛАРУСКІ ЦАРКОЎНЫ ГОЛАС. Нямеччына, б. м. 1946 (№ 1, 2). Р.

8. БОЖЫМ ШЛЯХАМ. Заснаваны ў 1947 а. Л. Гарошкам. Парыж, 1947—1957 (№ 1—81); Лёндан (Рэд. а. Я. Гэрмановіч), 1964 (№ 82) —

9. БЮЛЕТЕНЬ БАПЦ. Кліўленд 1959 — ?. Р.

10. БЮЛЕТЭНЬ Беларускага праваслаўнага Брацтва і Сястрыцтва Жыровіцкай Божай Маці ў Вялікабрытаніі. Брадфорд, 1957—1960 (№ 1-8) — ?. Прав. Р.

11. ГОЛАС ЦАРКВЫ. Рэлігійна-грамадзкі часапіс для беларусаў. Выд. Епархіяльная Управа БАПЦ. Нью-Ёрк 1955 —

12. ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ. Беларускі рэлігійны часапіс прысьвячаны справе аб'яднаньня Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы. Месячнік. Альбэртын, Ісусавае Таварыства, 1832—1936.

13. ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ. Парафіяльны часапіс. Рэд. і Выд. а. Ул. Тарасэвіч, Чыкаго, кат. парафія Хрыста Спаса, 1967 —. Р.

14. ЕВАНГЕЛЬСКІ ПРАПАВЕДНІК для беларусаў. Рэд. і выд. У. Рыжы-Рыскі. Мадрыт 1958 (№ 1—4). Прат. Р.

15. ЗЛУЧЭНЬНЕ. Месячная рэлігійная часапісь прысьвячана злучэньню хрысьціян у адной веры. Варшава, Ісусавае Таварыства, 1936—1939. Л.

16. ЗОРКА. Беларускі часапіс для дзяцей. Дадатак да «Хрысьціянскай Думкі». Месячнік. Вільня 1938—39. Л.

17. ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ. Рэлігійна-грамадзкі часапіс для праваслаўных беларусаў. Рэгэнсбург 1946—1947 (№ 1-8). Р.

18. ЗЬНІЧ. Беларуская рэлігійна-адраджэнская часапісь. Рэд. і выд. кс. пралат П. Татарыновіч. Рым 1950—. Л.

19. НАШАЯ ЦАРКВА. Рэлігійна-грамадзкі часапіс для праваслаўных беларусаў. Выд. Епархіяльная Управа БАПЦ у Аўстраліі. Мэльбурн 1961—?. Р.

20. ПРАВАСЛАЎНЫ БЕЛАРУС. Царкоўна-народны двутыднёвік. Рэд. і выд. Іван Пачопка. Варшава 1925—?.

21. ПРАВАСЛАЎНЫ БЕЛАРУС. Штомесячны рэлігійны часапіс. Мюнхэн 1946—1949. Ад 1950 выходзіў на расейскай мове.
22. ПРАВАСЛАЎНЫМ ШЛЯХАМ. Часапіс прысьвечаны паглыбленьню рэлігійнай і нацыянальнай сьведамасьці Выд. Царкоўны камітэт у Аўстраліі. Конфільд, 1964—1967?. Р. Тэкст часткова на ангельскай мове.
23. ПРАЛЕСКІ. Часапіс для беларускіх дзяцей. Дадатак да «Беларускай крыніцы». Месячнік. Вільня 1934—1939. Л.
24. РУНЬ. Бюлетэнь Беларускага Каталіцкага Акадэмічнага А'беднаньня. Лёндан, 1950—1953 (№ 1—5). Л. Р.
25. СІЛА ВЕРЫ. Часапіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва на чужыне. Нямеччына — З. Ш. А., 1948—1964 (№ 1—17). Р.
26. СЛОВА БОЖАЕ. Тыднёвік. Рэд. і выд. кс. Фр. Чарняўскі. Лювэн, 1954—1957 (№ 1—176). Л. Р.
27. СЛОВА ПАЦЯШЭНЬНЯ. Часапіс прысьвячаны пашырэньню евангеліцкай праўды. Нямеччына, б. м., 1949 (№ 1)—?. Р.
28. СЛОВА ПРАЎДЫ. Часапіс для евангелікаў на чужыне. Рэд. і выд. пастар Я. Пятроўскі. Лінц, 1949 (№ 1, 2). Р.
29. СНАПОК. Царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей. Месячнік. Варшава, 1937—1939. Прав.
30. СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСКІ. Царкоўны нацыянальны двутыднёвік. Орган праваслаўных беларусаў. Вільня. Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт, 1930 (№ 1)—?.
31. СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ. Першы беларускі евангельскі часапіс. Рэд. і выд. пастар Я. Пятроўскі. Варшава 1933—1939 (№ 1—48); Нью-Ёрк 1961—1966 (№ 49—84).
32. СЯЎБІТ. Каталіцка-грамадзкі часапіс. Рэд. і выд. кс. Фр. Чарняўскі. Нью-Ёрк 1959—. Л.
33. ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ. Орган Беларускага Праваслаўнага Камітэту ў Амэрыцы. Нью-Ёрк 1950—?.
34. ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ДУМКА. Каталіцкі рэлігійны часапіс. Двутыднёвік, а пасьля тры разы ў месяц. Вільня 1928—1939. Л.
35. ХРЫСЬЦІЯНСКІ СЬВЕТАЧ. Голас Сябрыні беларускіх мэтадыстаў. Ватэнштэт 1946 (№ 1) —?. Р.

# Сучасная праблема веры

1

У сваіх прамовах падчас аўдыенцыяў на пачатку 1972 г. Папа дакранаў праблемаў веры. Сьцьвердзіў, што цяпер многа людзей, ня гледзячы на вялікі прагрэс у навуцы і тэхніцы, перажываюць не малыя цяжкасьці ў сваей веры, а нават пераходзяць праз крызысы. А здаецца, што павінна быць інакш, бо навука сама ў сабе не супярэчыць рэлігіі. Дык скуль ідуць супрацівы?

**Прычыны з боку самога чалавека.**

Сьвет, які нас акружае, мы пазнаём пры помачы пачуцьцаў, як зрок, слух, смак, дотык, і нюх. Праз гэтыя «дзьверы» сьвет прыходзіць да нас, а мы да сьвету: праз пачуцьці мы пазнаём сваё акружэньне. З гэтага пачуцьцёвага пазнаньня мы творым пазнаньне вобразнае і духовае. А тымчасам рэлігійныя праўды чалавек пазнае розумам і каб чалавек мог верыць, мусіць на гэта згадзіцца ягоная духовая ўлада-воля. Аднак нашая душа — розум і воля — ў нашай істоце вельмі аслабленыя нашымі грахамі. Розум трацiць яснасьць, а воля схіляецца лягчэй да зла чым да дабра. На гэта ўжо наракаў старадаўны рымскі паэт Овідыюс, кажучы: «Бачу лепшыя справы й хвалю іх, але іду за горшымі».

Таму цяжка чалавеку прымусіць сябе да думак духовых і рэлігійных — шукаць праўды, пазнаваць яе, маліцца і паставіць правілам свайго жыцьця. Як і цяжка ўтрымаць лодку роўна на рацэ, каб не паддалася цячэньню-плыні, ані хвалям падчас буры. А праўдзівая рэлігія з сваёй натуры вымагае змаганьня са злом і накланяе тварыць дабро. Дык чалавек у спакусах і грахох адкладае рэлігійныя абавязкі і пакідае малітву ці шукае лягчэйшай рэлігіі і так адыходзіць ад праўды. І калі шукае Бога, дык робіць гэта няшчыра і неналежна.

**Прычыны з боку сучаснае цывілізацыі.**

І цяперашняя няясная атмасфэра жыцьця на сьвеце, заганны ўплад адносінаў й грамадзтве і слабасьць людзкое волі й розуму — ўсё гэта ня спрыяе духоваму настрою ў людзей. А рэлігійныя справы вымагаюць большага намаганьня, часу і развагі, каб падумаць, парадзіцца і памаліцца. А ўвага ў людзей расцярушана, пачуцьці знайшліся пад уплывам радыё, тэлевізіі, кіна, рэклямы і інш. Яны засыпаюць весткамі, даюць на ўсё гатовы адказ, часам і на рэлігійныя справы, але на жаль павярхоўна. Праз гэтыя гатовыя адка-

зы сталася грамадзтва менш актыўным і самадзельным і ня мае свайго крытычнага сьветапагляду. Па просту людзі адвыклі шукаць праўды дый у клопатах жыцьця ня маюць на гэта й часу.

З малога чалавек прывык кіравацца вобразамі і сучасная мова не багатая разумовымі і духовымі паняцьцямі. Дык цяпер у Царкве вядзецца вялікая праца, каб рэлігійныя паняцьці датасаваць да сучаснага стану жыцьця. Таксама і цяперашняя духовая атмасфэра не памагае чалавеку шукаць Бога і займацца рэлігійнымі справамі. Жыцьцё ўлажылася матар'яльнае, абыякавае на ўсё духовае, а нават становіцца варожае рэлігіі. Усіх уцягвае бізнэс, лёгкі заработак і выгоднае жыцьцё. Спецыяльна разбуджаецца распуста, — праз цяперашнія строі, праз парнаграфію, праз рэкляму і ў тэлевізіі. Дык усё гэта не дае магчымасьці займацца справамі збаўленя душы, малітвай і паганіць хрысьціянскі настрой грамадзтва.

**Рэлігійны інстынкт.** Здавалася б, што ў такім палажэньні чалавек зусім адыйдзе ад Бога. Аднак дзеіцца інакш: у чалавеку зьяўляецца рэлігійны інстынкт, уложаны ў душу праз Бога. Як у самаабароне людзі адчуваюць фізычны інстынкт, так і ў духовым жыцьці ёсьць інстынкт Божы, як-бы голас Божы. Дык вось чалавечы розум шукае адказу на адвечныя пытаньні: а) Адкуль чалавек узяўся? б) Перад кім будзе адказываць за сваё жыцьцё? (в) Якое мае празначэньне і што чакае нас па сьмерці? і г. д. І наш розум займаецца гэтым ня толькі з цікавасьці духовай, але з глыбокай патрэбы. Так як піша сьв. Аўгустын: «Неспакойная душа, мая о Божа, пакуль ня супачыне ў Табе». І гэтыя пытаньні — гэта ўжо паважная філязофія, але яны належаць і да рэлігіі, бо гэта ёсьць назначэньне і мэта людзкога жыцьця. І нават само слова «рэлігія» азначае з лацінскае мовы «сувязь»: мы пазнаём Бога і Яму служым, а Ён нам заплаціць вечным шчасьлівым жыцьцём.

Гэты рэлігійны інстынкт робіць тое, што нават і атэісты твораць сваю «рэлігію»: ставяць свае «праўды», у якія яны моцна веруць і якімі мусяць кіравацца — пад пагрозай найбольшых караў — аж да кары сьмерці! Атэісты маюць сваіх «найвышэйшых» — замест Бога (Маркс і Ленін), якіх прызнаюць непамыльнымі; маюць сваю «царкву» — партыю, якая выпісвае законы — «запаведзі», «дэкалёгі» дый уводзіць свае «абрады». А публічныя парады напамінаюць рэлігійныя працэсіі.

Як бачым, усё гэта бярэцца з рэлігіі, каб яе заступіць, бо чалавек ня можа жыць без аўтарытэту і сталасьці ў сваіх учынках, каб людзтва ня счэзла ў анархіі і ў злачынствах. (А іхняя дыктатура далёка цяжэйшая, чым у царкве ўлада Папы Рымскага ці Патрыярхаў Праваслаўных. Немамыльнасьць Рымскага Папы датычыць агранічанае сфэры дагматаў, а дыктатура ў камунізьме абыймае наскрозь усё жыцьцё іхняга грамадзтва і яна абсалютная!)

(О, далёка цяжэй служыць камуне, партыі і яе сакратару, чым у хрысьціянстве служыць Богу і Касьцёлу-Царкве! І падаткі ў іх вялізарныя і «катахізмы» цяжэйшыя . . .)

«Камунізм — кажа Рымскі Папа — хоць імкнецца заступіць людзям рэлігію, не дае адказу на вечныя пытаньні і не заспакоіць унутраных патрэбаў душы».

### Розныя рэлігіі.

У працягу свайго існаваньня на зямлі людзі пад уплывам рэлігійнага інстынкту стварылі мноства рэлігіяў, з якіх адны больш, а другія менш згодныя з розумам, а некаторыя далёка адыходзяць ад праўды. І цяпер людзі, паміма дрэнных і няспрыяльных умоваў, усюды выяўляюць цягу шукаць адказу на пытаньні аб Богу, аб праўдзе і назначэньні чалавека. І ніколі ня друкаваліся ў такім вялікім ліку кнігі Сьв. Пісьма, як цяпер. А дзе гэтага нельга дастаць, як у Саветах, дык стараюцца пазычаць у другіх. Нават моладзь, якая ўсяму пярэчыць, дый змагаецца з усялякімі ўстановамі і парадкамі, шукае разьвязку ў рэлігійных пытаньнях. І Папа Павал VI кажа, што магчыма ад моладзі пачнецца поўнае рэлігійнае адраджэньне чалавецтва.

Дык з таго, што мы сказалі, можна спадзявацца, што рэлігійны інстынкт перародзіцца ў поўны рэнэсанс рэлігіі і Царквы. Пэўна аднак, што рэлігійны інстынкт — гэта ёсьць здольнасьць і сіла чалавека, якую трэба шанаваць і даглядаць — выхоўваць, бо можа вырадзіцца ў нешта шкоднае ці памылковае, асабліва там, дзе існуе прасьлед рэлігіі, як у Савецкім Саюзе і ў Кітаі. Гэты інстынкт хоча быць шчасьлівым. Але самай найчысьцейшай праўды нельга нідзе знайсьці бяз Божай помачы — без Божае ласкі.

### Божая ласкавасьць.

Бог сапраўды хоча, каб чалавек асягнуў сваё найвышэйшае шчасьце. Таму Бог выходзіць на сустрэчу ў яго шуканьні. Калі чалавеку цяжка паняць Бога, дык Бог сам абяўляецца яму. У Старым Запавеце Бог абяўляўся праз пракокаў. З'явіўся вялікаму праноку Майсею і даў 10 прыказаньняў-запаветаў з гары Сынаю ў Арабіі. Праз іншых адкрываў таямніцу людзкога збаўленьня і пры-

ход Мэсыяша-Збавіцеля. Пасьля праз Сына Свайго, Госпада Ісуса Хрыста, яшчэ дакладней аб'яўляе сваю волю, праўду і любоў да чалавека. І гэты пэрыяд жыцьця Хрыстовага на зямлі — навукі, цярпеньняў і сьмерці на крыжы, а таксама ўваскрошаньня, у небаўступленьня і зыходу Духа Сьвятога на апосталаў — называецца Новым Запаветам.

Аб'яўленьне Богам праўды з неба ў Старым ці ў Новым Запавеце памяшчаецца ў кнігах Сьвятога Пісьма — Бібліі і ў Традыцыі — у пісаньні сьвятых Айцоў. Гэтым тлумачыцца- ў Старым Запавеце жыдоўская рэлігія была адзінай праўдзівая і адрозьнівалася ад усіх паганскіх чыстатой і глыбінёй рэлігійнай праўды і маральных загадаў. Аднак жыды былі сярод народаў самым невялікім, звычайным народам, ня высока культурным дый да таго яшчэ і схільным да ідала-паклонства. Дык ніякім чынам яны самі сабой не маглі ўзвысіцца да такой дасканалай рэлігіі. Каб аб'яўленыя жыдом праўды не загінулі ў працягу вякоў і не памяшаліся з людзкімі памылкамі, Госпад Ісус Хрыстос вучыў Сам і заснаваў сваю Царкву і ёй пераказаў усе праўды і Тайны-Сакраманты. Да таго яшчэ абдарыў Царкву дарамі Сьвятога Духа, каб Царква магла гэты давераны скарб захаваць і пераказываць з пакаленьня ў пакаленьне аж да канца сьвету. Гэтую задачу і місію Царква спаўняе праз біскупаў, якія з Рымскім Папам становяць царкоўную Герархію. Так Бог хоча збавіць увесь сьвет праз сваю Царкву, якую назваў сваім Валадарствам.

---

## *З нашае мінуўшчыны*

# Рукапіс Архіэйскай Літургіі з XVII стагодзьдзя

(Новы здабытак Беларускай Бібліятэкі ў Лёндане)



Нядаўна на ліцытацыі ў Лёндане ў Сотлебы прадаваўся гэты рукапіс. Хаця цана была пастаўлена значная, аднак ня была за высокая на сьціплыя магчымасьці Беларускай Бібліятэкі, якая натужылася, каб рукапіс здабыць.

Цяпер, калі рукапіс у нашых руках, неабходна з ім бліжэй пазнаёміцце, пакідаючы глыбейшыя студыі на далейшы час.

Рукапіс мае выгляд кніжкі пераплеценай у пергамент. Усяго 106 бачын. На аднэй бачыне даецца славянскі тэкст Літургіі сьв. Яна Хрызастома з тлумачэньнем цырымоніяў (так наз. рубрыкамі); а раўналежна на другой бачыне той самы зьмест перадаецца па лаціне. Характар пісьма, як славянскі, так і лацінскі, даволі выразны.

Тут падаём тытул у дзьвюх мовах з першае бачыны разам з прысьвячэньнем рукапісу царкве сьвятых мучанікаў Сяргея і Вакха ў Рыме біскупам Тодарам Скуміновічам, суфраганам Беларусі. Гэты тытул, асабліва дэдыкацыя, зьяўляюцца ключом да бліжэйшага ўстанаўленьня даты народзінаў рукапісу.

БОЖЕСЬТВЕНЬНАЯ ЛИТУРГИЯ иже во Святыхъ Отца Нашего Іоанна Златаустаго егда служытъ Святителъ по Уставу Церкви Восточное Кафолическое Митрополии Киовское и всея российския земли.

DIVINA LITURGIA Sancti Patris Nostri Ioannis Chrysostomi quando celebrat Pontifex secundum ordinem Ecclesiae Orientalis Catholicae Metropoliae Chio-

viensis et omnium Terrarum Russiae. Ecclesiae SS-m Sergii et Baochi in Urbe offero perennum mei obsequii monumentum Theodorus Skuminowicz Epps Gratianopolitanus Suffraganus Vilnensis per Albam Russiam mp (manu propria).

Тодар Скумін-Скуміновіч, першы Віленскі Суфраган (вікары-памацнік) для Беларусі, быў Біскупам ад 1652 да 1668 г. У тым часе Віленскімі Біскупамі Кіраўнікамі былі Юры Тышкевіч (1649—1656) і Ян-Кароль Даўгялла-Завіша (1656—1661).

У актах Віленскай Капітулы аб біскупе Т. Скуміновічу чытаем: «Адзначаўся сьвятасьцю жыцьця, чыстымі абычаямі, быў дастойны і паважны у старэйшым веку, у навуках сьвятых і сьвецкіх выдатны, знаў шмат розных моваў».

Вось-жа гэты Біскуп у 1652 г. з даручэньня свайго Кіраўніка быў у Рыме і завёз Сьвятому Айцу справаздачу аб Віленскай дыяцэзіі. Дык можам дагадвацца, што якраз тады і ахвяраваў наш рукапіс-Літургію царкве сьвятых мучанікаў Сяргея і Вакха ў Рыме, дзе былі беларускія Васіляны-манахі.

Сяньня мы яшчэ ня можам сказаць, хто выканаў рукапіс і для якой мэты быў ён зроблены?

Аднак ён мае для нас вялізарную вартасьць, бо паходзіць з беларускіх земляў і паказвае на строй архіярэйскай Літургіі першых беларускіх каталікоў усходняга абраду (уніятаў).

Разумеецца, што сьв. Літургія мала розьнілася ад той, якую служылі праваслаўныя. Спатыкаем аднак пэўныя тлумачэньні, напр., калі служыў Мітрапаліт, дык ён адзін успамінаў Рымскага Папу, а ўсе саслужачыя — толькі Мітрапаліта.

Цікавы гэты рукапіс такжа і для філялёгаў. Ёсьць у ім словы збеларусчаныя і адхіленьні ад славянскага. Напрыклад у малітве да Сьвятога Духа чытаем: «Приди і вселися в нас», а ня «в ны», як маем у сучасных служэбніках.

Ад розных бібліяграфаў мы ведаем, што на Белаурсі было нямала выданьняў вуніяцкіх служэбнікаў, але для сьвятароў. Усе вуніяцкія літургічныя кніжкі сяньня ёсьць вялізнай рэдкасьцю, бо падчас ліквідацыі вуніі Мітрапаліт Семашка адбіраў іх ад сьвятароў і паліў.

Адносна архіярэйскага служэбніка мы пэўныя, што ў XVII стагодзьдзі друкаванага ня было. Таму наш прыдбаны рукапіс, нікім яшчэ не апрацаваны, набірае большае вартасьці. Лацінскі пераклад Літургіі сьв. Яна Хрызастома таксама адзін з першых і ён выразна сьведчыць аб сувязях Беларусі з Захадам. Той, хто перакладаў Усходнюю Літургію, мусіў добра знаць некалькі моваў.

У далейшых навукова ведзеных досьледах над рукапісам нельга обмінаць і ягонага лацінскага перакладу.

Ч. С.



# З царкоўнага жыцьця

## СУСЬВЕТНЫ СЫНОД БІСКУПАЎ

Гэты Сынод у Ватыкане мае адбыцца ў 1974 г. Тэмай яго мае быць: «Сытуацыя і роля сям'і ў сучасным сьвеце». Гэтая тэма была дыскутаваная на Краёвых Канфэрэнцыях Біскупаў і прынятая бальшынёю галасоў. З сем'яў складаецца грамадзтва, дык стварэньне прыкладнай хрысьціянскай сям'і — гэта справа вельмі важная для ўсяго чалавецтва.

## АПАСТАЛЯТ БІБЛІІ

Нядаўна ў Вене (Аўстрыя) адбылася Канфэрэнцыя Сусьветнага Саюзу Апасталяту Бібліі. Галавой Саюзу зьяўляецца кардынал Кеніг, архібіскуп Вены. Ён падкрэсьліў, што мэтай Саюзу ёсьць пашыраньне Сьвятога Пісьма, каб кажны народ меў яго ў сваей роднай мове і каб знаёмасьць Сьв. Пісьма і жыцьцё паводле яго загадаў сталася паўсюдным сярод хрысьціянаў. На Канфэрэнцыі былі прысутныя прадстаўнікі многіх народаў усяго сьвету. У Апасталяце супрацуюць таксама іншыя вера-вызнаньні і таму ён мае немалое значэньне для ідэі экумэнізму.

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА ПАТРАБУЕ СТРУКТУРЫ

Няраз сярод каталікоў ставіцца пытаньне: — Чаму ў Царкве не зьмяняецца лад, як напрыклад у дзяржавах? Адны дзяржавы перайшлі на дэмакратычны лад, другія маюць дэмакратычную манархію, а іншыя маюць дыктатуру і г. д.

На аднэй аўдыенцыі Папа Павал VI вызсьніў, як выглядае справа ў Царкве. Кажа, што Бог стварыў людзтва, даючы чалавеку разумную натуру здольную і схільную да грамадзкага жыцьця. Дзякуючы гэтаму людзі могуць дасканаліць форму свайго грамадзтва. Адносна Царквы — Бог заснаваў яе беспасярэдна і ўстанавіў для яе асьцісла акрэсьленую структуру, выбіраючы Апосталаў, а між імі Пятра, як галаву. Чытаем у Эвангельлі: «Вось-жа дванаццацёх апосталаў імёны гэткія: Першы Сымон, званы Пятром . . .» (Матэй 10, 2). Для выкананьня іхніх абавязкаў даў ім дар Духа Сьвятога, які пераказваецца з волі Хрыста на іхніх наступнікаў праз рукапалажэньне. Сам народ ня можа тварыць «самасьвятаў» — біскупаў, бо яны ня будуць мець дараў Сьвятога Духа. Бо якім-бы іншым «духам» яны спраўлялі-б сьвятыя Тайны: Літургію, адпушчэньне грахоў, непамыльнае навучаньне праўдаў веры? . . Гэты дар Сьв. Духа, пераказаны апосталам і пасьля біскупам дый іхным наступнікам, існуе да гэтага часу. Значыць, самае важнае — гэта наступства біскупаў ад апосталаў і ад Хрыста. А дзе гэтая чарга перарвалася, там ужо і занікла Царква Хрыстовая. І гэтага Хрыстовага ладу ніякая іншая ўлада перамяніць ня можа! . .

## НОВЫ ДЭКРЭТ АБ ВЫБАРЫ БІСКУПАЎ

Краёвыя Канфэрэнцыі біскупаў маюць выбіраць трох кандыдатаў на біскупаў і прадстаўляць іх Апостальскаму Пасаду ў Ватыкане, а з іх Папа назначае на пасады і яны пасьля маюць прыймаць хіратонію — пасьвячэньне праз узлажэньне рук біскупаў у спэцыяльнай цырымоніі. Дакрэтам падаюцца прыметы такіх кандыдатаў на біскупаў — са сьв. Пісьма і цяперашніх вымогаў жыцьця і душпастырства. Значыць, улада ставіць біскупаў астаецца пры Апостальскім Пасадзе, але на падставе апініі і рэкамандацыі Краёвых Канфэрэнцыяў мясцовых біскупаў.

## РЭВІЗІЯ ЎСХОДНЯГА ЦАРКОЎНАГА ПРАВА

У чэрвені Папа устанавіў спэцыяльную Камісію для праводзеньня гэтае рэвізіі. Ведама, што Цэрквы Ўсходняга Абраду маюць сваё Царкоўнае Права таму, што яны мелі свае старадаўныя традыцыі і адменныя гістарычныя ўмовы жыцьця. Апошняя рэвізія была праведзена ў 1950 г. Але пасьля II-га Ватыканскага Сабору і вельмі вялікіх пераменаў у апошніх часах на сьвеце ўзьнікла патрэба перагляду Права і датасаваньня яго да сяньняшняга часу. Да гэтае Камісіі закліканы ўсходнія Патрыярхі і выдатныя біскупы гэтых Цэркваў і іншыя выдатныя вучоныя экспэрты. У Камісію ўвайшоў таксама і наш Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў-каталікоў.

ПОЛЬШЧА. Папа назначыў пяць біскупаў на землі, якія па апошняй вайне перайшлі ад Нямеччыны да Польшчы і гэтым устаноўлена нармальная царкоўная Гіерархія. Да гэтага часу былі там толькі Апостальскія Адміністратары, назначаныя часова Апостальскім Пасадам. Нармалізацыя наступіла пасьля ратыфікацыі ў Боне трактату Нямецка-Польскага.

## ДАКУМАНТ АБ СУЖЭНСТВЕ

У сакавіку г. г. Папа зацьвердзіў Дакумант аб сужэстве. Даўней гэтыя справы вырашаліся ў Рыме адпаведнымі Кангрэгацыямі Ватыкану. Цяпер у падобных выпадках справы вядуцца адпаведнымі Краёвымі Канфэрэнцыямі біскупаў. Такім чынам аблягчаецца працэдура скасаваньня сужэнства, на што калісьці няраз лішне доўга чакалі заінтарэсаваныя асобы.

## ПАШКОДЖАНАЯ «ПІЕТА»

ПАШКОДЖАНАЯ «ПІЕТА» — фігура Божае Маці ў базыліцы сьвятога Пятра. 21 мая г. г. Падчас набажэнства, калі адпраўлялася паўднёвая Літургія, нейкі чалавек праўваўся да фігуры Божае Маці, якая трымае на лоне Хрыста, зьнятага з крыжу, і пачаў разьбіваць малатком фігуру. Стража адцягнула гэтага вар'ята, але паліцыя ледзь адбараніла яго ад узбуранага натоўпу, каб не стварылі над ім самасуду. Шкода прычынена вялікая: адбіты кусок рукі і пашкоджаны твар фігуры і пэўна гэты шалёны зьнішчыў-бы ўсю статую, каб яго не адцягнулі. Гэтак званая «Піета» — гэта фігура высокай мастацкай вартасьці выкаваная 400 гадоў таму назад артыстам-мастаком Мікэль-Анджэлё Буонаротті.

Папа, даведаўшыся, пайшоў адразу на месца выпадку і доўга маліўся з вялізным сумам прад фігурай. Спэцыялісты, а між іншых сам дырэктар Кансэрвацыі мастацкіх твораў, казалі, што пашкоджаньне можна выправіць так, што знаку ня будзе. Але іншыя цьвердзілі, што немагчыма затушаваць прычыненую шкоду і сьлед астанецца.

Гэтым шалёным чалавекам аказаўся мадзяр з аўстралійскім падданствам. Назваў сябе «Ісусам Хрыстом». Работа, ведама, шатанская: дэман выкарыстаў шалёнага чалавека, каб прычыніць крыўду ўсяму культурнаму чалавецтву, асабліва Каталіцкай Царкве. Праз 4-ы з лішнім стагодзьдзі людзі падзіўлялі цудоўную фігуру Божае Маці, а мастакі ўсяго сьвету прыяжджалі на студыі — вучыцца найвышэйшага мастацтва, з якім Мікэль-Анджэлё выканаў у маладых гадох (25 год!) гэтаю разьбу-фігуру.

## ЦЯЖКІ ЛЁС ЦАРКВЫ Ў ЧЭХА-СЛАВАЦЫІ

Апошнім часам палажэньне Царквы там вельмі пагоршылася: напасьці ў прэсе, быццам Царква вядзе дывэрсыйную работу супраць дзяржавы. Асталіся толькі два дзейныя біскупы з 9-ці, што былі даўней. І дзьве духоўныя сэмінарыі з абмежаваным лікам студэнтаў. Мужчынскія манастыры скасаваныя, а ў жаночых сабраны ўсе манахіні ў два кляштары, дзе маюць аставацца да сьмерці. Адным словам вядзецца самы жорсткі прасьлед пад назвай «поўнае свабоды рэлігіі».

## АСАБЛІВАЯ КНІЖКА

У Нямеччыне вышла з друку кніжка п. н. «Ісус надходзіць». Прысьвечана яна новаму кірунку сярод моладзі, называнаму «Рух Ісуса», які стаўся цяпер улюблёным у акадэмікаў у Злучаных Штатах Амэрыкі і ў Нямеччыне. Кніжка вельмі хутка разыйшлася. Закупілі яе выдавецтвы ў Францыі, Італіі, Швэцыі і Галяндыі для перадруку.

## ІНТЭРВЬЮ З КАРДЫНАЛАМ ДАНІЭЛЮ

Францускся газэта «Ле Фігаро» правяла размову з кардыналам Даніэлю, выдатным вучоным, на тэму рэклямаванага сярод моладзі відовішча пад назовай «Ісус-Хрыстос — СУПЭР-ЗОРКА»: — Што кардынал аб гэтым думае? — І вось ягоны адказ:

— Я думаю, што гэта ёсьць пратэст супраць незаспакаеньня запатрэбаваньняў у сучасным грамадзтве. І гэта ёсьць бунт супраць дэградацыі 8-мі Хрыстовых багаславенстваў і супраць адхіленьня Божага загаду — любіць бліжнята. Рэлігійныя патрэбы так-ці-інакш дойдуць да голасу. Пагляд, што прагрэс чалавецтва быццам паступова выключае рэлігію на кёрысьць гуманітарызму, аказваецца абсурдам. — А на пытаньне, ці гэтае відовішча магло-б быць задэманстраванае ў Рыме на пляцу базылікі сьвятога Пятра, кардынал адказаў: — Так, бяз ніякага сумніву!

## ЯК ВЕРУЦЬ САМІ БАГАСЛОВЫ?

Справа апрацоўкі добрага катэхізму ёсьць вельмі актуальная, але ня лёгкая! Настаўнікі Божага Закону дамагаюцца найлепшага навучаснага катахізму, які адпавядаў-бы патрэбам сучаснай мадэрнай моладзі. Дык апрацоўка такога катэхізму, ведама, даручаецца вучоным багасловам (тэалёгам). Але тут узьнікае пытаньне: ці сам багаслоў мае дастатковую веру ў Божыя Праўды, якія выкладаюцца ў катахізмах? І вось прыклад:

У Галяндыі багасловы — салідныя вучоныя — ўлажылі катахізм фахова дасканалы. Аднак аказалася, што некаторыя праўды веры яны паясьнілі не так, як верыць і вучыць сама Царква. Дык трэ' было катахізм паправіць. Добра, паправілі! Але і ў новым аказалася, што некаторыя праўды веры апушчаныя або пададзеныя неадпаведна з навукай Царквы . . . Чаму? Бо, відаць, самі тыя багасловы недавераюць належна і поўнасьцяй.

На першы пагляд выдаецца недарэчным, бо і хто-ж мог-бы лепш верыць, чым вучоны багаслоў? Бо ён найлепш знае праўды веры. Але — тут трэба разрозьніць: іншая справа ведаць, а іншая — верыць.

Кардынал Урайт, будучы гасьцём у Англіі, тлумачыў сабраным блізка тысячы асобам, катэхістам і катэхісткам. Вера — гэта дар ад Бога. Чалавек атрымлівае гэты дар незалежна ад навукі ці здольнасьці, але за прастату і шчырасьць сэрца або проста з Божае ласкі і волі. А тымчасам навука ёсьць здабыткам чалавека і навука не заўсёды ідзе ў пары з верай. І можа здарыцца, што вучоны доктар багаслоўя ня мае такой веры, як простая душа, хоць і мала вучоная. Затое і гавораць, што брэтонская селянка можа мець большую веру ад вялікага багаслова.

Аднак ня трэба думаць, што навука перашкаджае ў веры: ёсьць між вучоных багасловаў вельмі пабожныя, нават сьвятыя асобы, але Бог чамусьці не памагае так, як мы спадзяваемся. Бо некаторыя мусіць замала прыкладаюць да сваей навукі малітвы дый іншых цнотаў, спадзяючыся на сваю веду ці на свой розум?.. Дык дзеля таго рэлігійныя кніжкі, асабліва падручнікі багаслоўя павінны мець дазвол на друк ад сваіх біскупаў — апрабату, каб магчыма было бясьпечна даваць іх у рукі вернікаў...

УСХОДНЯЯ АЎСТРАЛІЯ: Ужо пачаўся трэці дзень, як я стаў адпускным. Тысячы думак пралятаюць мне праз галаву. Што было там на Бацькаўшчыне, дзе так упарта будуюць сацыялізм? Што перажыў я праз гэтыя гады і што асягнуў? Як мусіў трымаць язык за зубамі, аглядацца, слухаць і маўчаць! Як змагаўся з лёсам, каб пракарміцца з сям'ёй. А што бачу цяпер і якая калясальная розьніца паміж жыцьцём на Ўсходзе і на Захадзе?

Думаю аб сваіх, што асталіся дома. Ці змагу памагчы ім? Ведаю толькі адно: калі ўжо вырваўся адтуль, дык мне нельга апускаць рук, бо адважным належыць сьвет.

Пішу гэта з лягеру ў Х. Тут людзі з цэлага сьвету. Чакаю на права астацца ў прыгожай Аўстраліі. Дарагія Суродзічы! Пішу аб сваіх перажываньнях, хоць ведаю, што многа з вас перажылі тое самае. Некаторыя трапілі сюды зараз пасьля вайны. А я шукаю цяпер новае айчыны і думаю, што добра выбраў. Бо гэта краіна вольных людзей, маючых роўныя правы, людзей шануючых сябе і гасьцінных.

Я-ж, праўда, ня пісьменьнік, а проста рабочы з гандлёвага мараплаву. Ня ўмею пісаць захапляючых аповесьцяў. Хачу толькі пераказаць жменьку ўспамінаў з Беларусі — з жыцьця калгасьнікаў і ўсіх-усенькіх гаротнікаў. Ня ёсьць гэта аповесьць хвалюючая, але ёсьць чыстая праўда, якая пакіне сьлед на ўсё жыцьцё. Яшчэ мне цяжка сабраць думкі, бо жыву я тут з іншымі.

Задумаў я пакінуць Бацькаўшчыну ўжо нямала гадоў, а прымусілі мяне да гэтага вельмі цяжкія ўмовіны жыцьця, змаганьне за штодзённы быт, за сам мінімум існаваньня. І іхняя вечная хлусьня і райскія абяцанкі чарговых урадаў — Мікіткі, Касыгіна дый усяе зграі. Міналі гады — аж я пачаў арыентавацца, што працай нічога не даробішся. І вельмі цяжка выжыць ад выплаты да выплаты, а надзеі няма ніякае! Абяцаны камунізм — гэта навачасная форма нявольніцтва — гэта вызыск людзкой працы ўрадам, гэта абсалютнае агранічэньне вольнасьці і гэта галеча большае часткі жыхароў!

Нарэшце ўдалося мне ўцячы: скарыстаў я за трэцім разам. З болям пакінуў сям'ю, Бацькаўшчыну, якую кахаю, але пакінуў ненавісны камунізм, якога меў досыць павыш вушэй! Бо толькі дурныя могуць верыць у гэты строй. Нядосыць пазнаць камунізм пералётна, як турысты — яго трэба перажыць так, як я яго перажываў — праз нямала гадоў... Дык толькі сьляпыя і глуханямыя могуць неяк верыць у такі абяцаны рай. А хаця-бы пабачыць, як «узносіцца» узровень жыцьця, адчуць падвышкі цэн — яўныя і укрытыя — ежы і адзежы і г. д. Ад даўна плата за працу нясуразьмерная ў адносінах да цэнаў. Заработкаў не хапае на ўтрыманьне і людзі мучацца дый нешта ведаюць, чуюць, чытаюць — паміма ізаляцыі ад Захаду. Ведама, кожны хоча лепш жыць, але толькі чуюць абяцанкі чарговых уладароў. Дык кожны пытаецца, дзе-ж падзелася нашая збожжа, здабыча і скуль такія недахопы ў гаспадарцы, у гандлю і на рынках?

Але далі мне дазвол на выезд за межы і атрымаў падарожную кніжачку. Шчасьліва перабрыў праз сіта праверак і справаздачаў. А сябры зайздросьцілі, бо нямала хто чакае на такую нагоду, а маладых — да таго й нежанатых — ня пускаюць зусім! Ну і я паехаў!

І вось тут вечарамі аглядаю горад і бачу шмат цікавага. Вялізная розьніца: багатыя магазыны, прыгожа аздобленыя, шырокі асартымэнт тавараў! Гутару з людзьмі, пытаюся аб зарплаце дый які кошт жыцьця? Бачу, што эмігранты здаволеныя: працуюць, зарабляюць і дарабляюцца. А грошы маюць вартасьць і можна шмат за іх купіць. За некалькі месяцаў сталае працы магчыма ўладзіцца, а ў нядоўгім часе можна мець уласнае памешканьне, салідна абстаўленае і нават аўтамашыну!

У каго такая магчымасьць бывае на Беларусі? Колькі трэба намазаліцца, а для большай часткі і цалкам немагчыма!

Гэтак дасьпявае ў мяне пастанова: трэба з тым скочыць! Вяртаюся па першым і другім рэйсе дамоў. Але ёсьць у мяне і сумненьне, бо трэ' будзе пачынаць новае жыцьцё і трэ' будзе пакінуць сям'ю на доўгія гады. Ці змагу іх калі пабачыць? А мо' спаткае іх ліхалецьце за мае ўцёкі? І ці мне самому пашанцуе без грошаў і паміж чужых? Дый хто мне падасьць руку ў першых кроках?

Усё гэта — так, але я зарызыкаваў, як мяне бачыце. Улажыў усю увагу, каб ня здрадзіцца ані словам перад маімі сябрамі ў кабіне; дый уся абслуга на параплаве, ведама, «чырвоная» — пільна наглядаюць. Капітан абрыдзіў мне жыцьцё: злосьнік ён й тып агранічаны, малпападобны. Зацяў я зубы, кабператрываць дый прачуваю, што гэта апошняя нагода: хочуць мяне зьняць пасьля гэтага рэйсу. Але-ж я вытрываў!

Пасьля разладунку было яшчэ тры гадзіны на закупы. Я сумысна ўсё раблю вельмі павольна, дык капітан і мэханік не дачакаліся мяне і вышлі. Але што купіш за астаткі грошаў? А дома чакаюць на гасьцінец. Ну, ўсе пашлі. Астаюся

сам у кабіне, хутка адзяваюся й адганяю ад сябе назойлівыя думкі, боязь і страх. Ах, каб чаго не забыцца! Зьбіраю дробязь, грошы, еміну й дакуманты... Маемасьць мая бедная — жабрачая — аж саромеюся яе сам! «Сьмялей!» кажу сабе: «Ні ты адзін гэтак выходзіш. І зараз буду вольны ад путаў камунізму». Выходжу. Гадзіна 11-я 15 мінут. На шчасьце ня было вартаўніка. Чую уласныя крокі, ідучы праз трап...

*Яўхім Адпускны*

ЧЫКАГО: ...Просім Вас паведаміць, аб чым будзеце радзіць на зьезьдзе духавенства ў Лёндане. Наш а. Уладзімер мае намер быць там, а мы, чыкагскія, жадаем прасіць яго, каб парушыў некаторыя нашыя справы.

Незадоўга надашлю яшчэ нешта пра падзеі у Ляхавічах і буду вельмі удзячны за зьмяшчэньне у «Божым Шляхам».

*Я. Ч.*

# З падарожжа па Сав. Саюзе

Мне прышлося жыць 8 дзён у правінцыяльным савецкім гор. Яраславе, 540 000 жыхароў. Я стараўся зразумець, як трывае вера ў гэтым сярэдня-вяковым горадзе, што прытаіўся на беразе Волгі.

Маладая дзяўчына, якая паказвала мне горад, суха казала: — Тут 60 цэркваў, з якіх 40 з XVI-га стагодзьдзя. Тры адчыненыя для набажэнства — яны працуюць.

А мой перакладчык Ваня Трунаў, 25 г., зьдзівіўся, што я хачу пайсьці ў царкву на Літургію. Казаў: — Я не знаю маладых ад 15 да 40, якіябы хадзілі ў царкву. Толькі туды йдуць некаторыя паэты, крыху вучоных, колькі актораў, дзівакоў і людзей, што захісталіся ў розуме. А з прасьцякоў — сяляне і старыя жанчыны. Усё гэта староцьце і ня мае вартасьці. І чаму вы гэтым цікавіцеся? — І ён закончыў: — Рэлігія не даецца выясьніць навукова, бо яе й няма. Мы будуем грамадзтва на навуцы. А ўсё іншае — гэта ўтопія і міфологія.

Калі я пытаўся ў палітэхніцы студэнтаў, ці яны веруць у Бога, дык яны казалі, сьмяючыся: — Бог — гэта вынахад бабулек, ці вы яшчэ аб гэтым не пераканаліся?

Такога чалавека, як я, што прызнаецца да сваей веры, лічаць дзіваком, застарэлым, запозьненым і ня сур'ёзным. Адзін партыйны прызнаўся мне ў канцы банкету, дзе разьлівалася водка: — Мы ня робім націску на тых, што ходзяць у царкву, але толькі націскаем псыхічна. Ягонае акружэньне, варштат, школа, кватэра яго лічаць устарэўшым або маладзіком і г. д.

У выніку гэтага ясна, што ёсьць. Быў я аднойчы ў катэдральным саборы сьв. Ізыдара: было чалавек 300 на набажэнстве. Пераважна старшыя тыпу «бабушак», адзетых бедна і абвязаных сваімі вечнымі шалямі.

Папы з доўгімі валасамі за іканастасам адмаўлялі малітвы ў мове стара-рускай. Хор прадзіўна і цудоўна сьпяваў сугучна з набажэнствам. І я пачуваўся ў сэрцы старой Расеі.

Архімандрыт Барыс, які гаварыў дасканала па француску, гаманіў са мной доўга і свабодна. Ён казаў: — Вернікі ў нас блізка ўсё жанчыны каля 50 гадоў. Сьвятары занятыя: спавядаюць, прычашчаюць, тры службы ў нядзелю. Хростаў 7—10% дзяцей. Царкоўныя шлюбы — вынятkова. 3000 пахаронных Літургіяў у год. Вучыць катахізмаў нельга. Сьвятары жывуць са сьвечак, са службаў і з ахвяраў.

Практыка ў нас малая. Але жанчыны, як старэюць, дык успамінаюць дарогу ў царкву.

Далей аўтар гаворыць: — Мяне запрасіў на сьнеданьне мітрапаліт Іоан, япіскап у Яраславе. Быў пры гэтым прадстаўнік-камуніст. А мітрапаліт казаў: — У маёй епархіі паўтара мільёна жыхароў. Я маю 85 сьвятароў, але не маю ні аднэй дух. сэмінарыі, дык высьвячаю маладых людзей, якія адбылі курсы духоўнае навукі праз карэспандэнцыю. І мы апынуліся зусім блізка часаў евангельскіх. Апосталы былі рыбакамі, але яны ня дрэнна спраўляліся... Мы ня маем рэлігійнае літаратуры, толькі крышку бібліяў і евангеліяў. І я пішу два-тры пастырскія лісты ў год, пераважна аб міры ў сьвеце.

Нарэшце камуніст-наглядчык у размове са мной гаманіў: — Вы бачыце, што нашая канстытуцыя прызнае свабоду сумленьня, але я мушу сказаць, што рэлігія павінна згінуць, бо зьнікне ў змаганьні з навукай, якую мы праводзім.

Тады мітрапаліт Іоан расьмяяўся: — Вы ніколі не дакажаце, што Бога няма; а вы самі толькі ў хвіліну сьмерці пазнаеце праўду. А я ведаю, што Бог ёсьць. І нашая Царква жыве так, як у першых вяках Хрысьціянства і я за гэта дзякую Богу.

І тое, што мяне асабліва ўдэрыла: камуна узвысшае маральнасьць ува ўсіх дзяланках жыцьця — ува ўрадах, у моладзі, у працы, у гандлі, у сям'і, любоў айчыны, чэснасьць, брацтва і цноты, якія ўважаюцца дагэтуль за ўласнасьць рэрэлігіі. І я спатыкаю партыйных чыста адзетых, у краватах, стройных, ветлівых, страшэнна

сур'ёзных і муштраваных. Яны пранятыя сваей паватай: не падыймаюць голасу, ня трымаюць рук у кяшэнях, заўсёды паўтараюць фразы прывычныя, на славу сваей дзяржавы; афішуюць сваю пэўнасьць, што стаяць на правільнай дарозе і што будуюць ідэальнае грамадзтва.

Яны мне прызнаваліся, што каб уступіць у партыю, трэба мець чыстыя рукі. Кандыдат павінен быць сумленным працаўніком, устойлівым у працы, наскрозь чэсным, на культурных узроўні, здатны аддацца ў ахвярнасьці для грамадзтва і мець апінію добрага чалавека.

А калі выявіцца, што партыец стаў п'яніцай, ашуквае жонку, ня дбае пра дзяцей, дык яму паставяць гэта на вочы і павінен папpавіцца, бо будзе выключаны.

Усюды вывешаны партрэты найлепшых работнікаў.

Дзіця ад 6 гадоў ужо «акцябронак» да 8 год: вучацца паважаць, як бога, Леніна. Перад статуямі Леніна (а іх маса!) ладзяць «аўтарыкі» — (я сам бачыў!) — і дзеці прысягаюць быць вернымі гэтаму ідэалу і дасканалымі. Пасьля — ад 8 да 14 — яны будуць «піянэры» з чырвоным краватам дый абяцаюць горача любіць айчыну, для яе жыць, працаваць, вучыцца, жыць па «ленінску» і ахвотна спаўняць вымогі піянераў.

Ад 14 да 27 — яны ўжо ў «камсамоле», у арміі і ў унівэрсытэце. Пракатная машына вальцуе іх у цнотах. Студэнт інжынерства 4 гадзіны ў тыдзень студыюе катахізмы марксізму-ленінізму, — бяз ніякага вынятку!

Нарэшце жэніцца. Бачыў я палац: музыка, салодкае шампанскае, гара шакаладу, прамова кіраўніка цырымоніі аб любові, узаемнай пошане, аб выхаваньні дзяцей і паход да памятнікаў Леніна і заслужаных герояў.

А да ўсяго гэтага — уся прэса (газэты й кніжкі), радыё, тэлевізія, кіно — і ўсюды сыпеўкі і прыпеўкі аб савецкай культуры і абычаях — прапаганда і нічога больш 50 гадоў — гэта новая рэлігія — камуна бяз перастанку пануе ў Саветах. Значыць, Савецкі ўрад стараецца на месца хрысьціянства падставіць цырымоніі і новыя «сакраманты» заміж даўнейшых. І гэта вядзецца ў духу глыбока «рэлігійным».

*Ян-Філіп Кордон*

«Русска Мысль», № 409, 1. IV. 1972.
Вольны пераклад Я. Г.

---

# З беларускага жыцьця

## САБОР БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Сёлета 27—29 травеня ў Нью Джэрсі ў Злучаных Штатах Амэрыкі адбыўся Сабор БАПЦ. Бралі ў ім удзел два беларускія герархі: Архібіскуп Андрэй Крыт з Клевэлянду і Біскуп Мікалай Мацукевіч з Канады. Ад праваслаўнага духавенства з Эўропы прынялі ўдзел а. протоерей др. Е. Смаршчок з Бэльгіі і а. Я. Пекарскі з В. Брытаніі. Да важнейшых справаў заладжаных Саборам трэба аднесьці прыняцьце статуту БАПЦ-вы, выбары Галавы Царквы ў асобе Мітрапаліта Архібіскупа Андрэя, папаўненьне Кансысторыі, вызначэньне адпаведных функцыяў для духоўнікаў і для некаторых вернікаў.

Гэты Сабор быў важнай падзеяй у жыцьці БАПЦ. Аб яго патрэбе ніхто ня мог сумнявацца пасьля сьмерці Архібіскупаў Васіля Тамашчыка і Сяргея Ахоценкі.

## 26-ты АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

У суботу дня 1 ліпня 1972 ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся 26-ты Агульны чарговы Зьезд сяброў ЗБВБ.

Прыбылі на Зьезд сябры з Лёндану й ваколіцаў, а такжа з Брадфорд, Манчэстэр, Бірмінгам, Кэмбрыдж і з іншых мясцовасьцяў.

Зьезд распачаўся малітвай. На старшыню быў выбраны сп. Еўлеў з Аддзелу ў Бірмінгам, а на сакратароў былі пакліканы спадары Я. Мазура і Т. Кажанеўскі.

Згодна з устаноўленым загадзя парадкам дня было 18 пунктаў, з якіх найважнейшымі былі справаздачы Галоўнае Управы, аўдытара, беларускіх клюбаў у Брадфорд і Манчэстары, а такжа ўправаў у Аддзелах.

Усе гэтыя справаздачы паказалі, што ЗБВБ матар'яльна стаіць добра, што дзейнасьць грамадзкая і харытатыўная адбываецца з посьпехам, хоць і пры неаднальковай усюды інтэнсыўнасьці.

Было-б пажаданым, каб у ЗБВБ ўлучалася новае пакаленьне, якое — на жаль — мала знае мову сваіх бацькоў і няшмат цікавіцца іхняй дзейнасьцю.

У новую Галоўную Управу былі выбраныя: на Старшыню сп. Я. Міхалюк, на Заступніка Старшыні сп. Т. Лемяшонак, на Сакратара сп. П. Навара, на Скарбніка сп. П. Асіповіч.

І так ЗБВБ ўвайшло ў новае 25-цігодзьдзе,

канца якога хто дачакае — толькі Сам Бог ведае.

А рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае найлепшых посьпехаў!

### ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Брытанская Ліга за свабоду Эўропы арганізавала ў часе ад 25-га чэрвня да 2-га ліпня г. г. Тыдзень Паняволеных Народаў.

У праграму Тыдня ўвайшлі: Экумэнічная малітва ў царкве Усіх Сьвятых дня 25 чэрвеня, уручэньне мэмарыялу ад усіх паняволеных народаў Міністэрству Вонкавых справаў, прэсавая канфэрэнцыя і інш.

Беларусы прыймалі ўдзел ува ўсіх імпрэзах. З гэтай нагоды была апрацаваная брашура ў ангельскай мове «Беларусь» (11 бачын рат. друку) і пашыраная Беларускім Вызвольным Фронтам, якога адрас падаецца ў той-жа брашуры ў Ноттінгам.

### БЕЛАРУСКІЯ ВАТЫКАНСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ

Белар. Ватык. радыяперадачы праводзяцца 5 разоў у тыдзень: у нядзелі а гадз. 06.15 і 18.05, і ў панядзелкі, серады і пятніцы а гадзіне 18.05. Усе перадачы — на кароткіх хвалях.

## *Пішуць да нас*

Вельмі Паважаны Айцец Рэдактар!

Я не забылася аб сваім абяцаньні даць Вам патрэбныя інфармацыі адносна трансфузіі крыві.

Вось жа, трансфузію крыві практыкавалі лекары ўжо на працягу стагодзьдзяў, але была гэта апэрацыя вельмі небясьпечная, бо часам пацыент ад яе папраўляўся, а часам адразу паміраў, таму ад трасфузіі крыві ухіляліся, як ад нечага вельмі небясьпечнага. І ніхто ня ведаў, чаму гэта ў адным выпадку яна памагала, а ў другім спрычыняла вельмі хуткую сьмерць.

Ажно ў пачатку трыццатых гадоў, Ландштайнэр у Вене знайшоў, што людская кроў можа быць чатырох групаў: група — О, група — А, — Б, і група АБ.

Ляндштайнер знайшоў гэтаксама, што калі чалавек атрымае трансфузію крыві тае самае групы, што й ягоная кроў, дык ён паправіцца, але калі чалавек, прыкладам, што мае кроў групы А атрымае кроў групы Б, дык ён напэўна памрэ. Група О лічыцца ўніверсальным донарам. Яе можна лучыць з групай А, Б і АБ.

І толькі ад часу калі былі знойдзеныя гэтыя групы крыві, трансфузія крыві стала ужывацца часта. Але гэта толькі ад пачатку трыццатых гадоў, што значыць у часе першае Сусьветнае Вайны трансфузіі крыві не ужывалі, а калі й ужывалі дык на ўгад: «Фіц выйграў, фіц прайграў».

Цяпер знойдзеныя й падгрупы у крыві, гэтак званы «фактар Г» і пры трансфузіі правяраецца кроў болей як толькі абазначыць групу крыві.

Што аднак магло ужывацца ў часе першае вайны, гэта інфузія вадкасьці — салёнага раствору. Ранены скажам траціць ня толькі кроў, а вадкасьць наагул. Тады сэрца ня мае чаго пампаваць, калі-ж дасца ў жылы саляны раствор, тады цыркуляцыя адбываецца й жыцьцё прадаўжаецца пакуль натура не пяройме абарону й падтрываньне жыцьця.

У другой сусьветнай вайне трансфузія крыві ўжывалася на вялікую скалю.

Спадзяюся, што я адказала на Вашыя запытаньні, Айцец, дастаткова.

І ў нас ужо вясна, хоць пару начай таму назад быў мароз і пашкодзіў ня толькі кветкі, але гароднiну й збожжа, як табак. Праўда, табак не зусім гароднiна, але людзі сеюць яго для заробку.

Жадаю Вам здароўя й посьпехаў у пісаньні Вашае аповесьці, ды наагул працы.

Успамінаем Фінчлей вельмі міла й шкадуем, што яно гэтак далёка.

*Раіса Жук-Грышкевіч*

Канада, 13. VI. 1972.

Цешуся й віншую Вас з заканчэньнем пісаньня аповесьці «Разумная Анютка». Добрая думка, каб выдалі яе беларускія жанчыны. Апэлюйце да іх, буду Вам памагаць.

Цяпер у нас «Караван 72». Наш павільён «МЕНСК» у гэтым годзе яшчэ лепшы, як летась. Прыцягвае наведвальнікаў і робіць прапаганду. Нашая моладзь, арганізатар павільёну, робіць важную справу. Памагаюць і дарослыя бязумоўна. Мы афармлялі, дэкаравалі павільён гэтак, каб ён прадстаўляў сабой беларускую культуру. Цешыць нас усіх, што маладая зьмена ўжо дзейнічае.

Рыхтуемся гэтаксама да 10-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

І сумная вестка — сяньня пахавалі сьв. пам. Мечыслава Рачыцкага. Ён быў каталік, сябра ЗБК, хоць апошнімі гадамі проста не паказваўся, відаць, хварэў. Памёр на атак сэрца, у веку ня болей, як 50 год. Малады яшчэ.

*Р. Ж.-Г.*

# Вавілонская вежа

*Былі ўсе людзі аднэй мовы*
*Бо тыя самы мелі словы.*
*А мовы ня было — ні панскай,*
*Ні лішняй, ні чужой, ні хамскай;*
*Ані ангельскай, ні францускай*
*І ні кітайскай, ні гіндускай.*
*А простая была — людзкая,*
*Бось як-бы нашая — такая . . .*

*Зрабілі раду між сабою*
*І пастанову тэй парою:*
*— Давайце сесьці тут навечна!*
*Далінка мілая, бясьпечна:*
*Зямля, як бачым, тут ня бедна*
*І для будовы адпаведна.*
*А горы і з паўдня, з паўночы —*
*Ня лезе вецер нам у вочы:*
*Раскошна месца — проста рай —*
*Жыві, танцуй, не памірай!*

*Найперш дай — цэглу нарыхтуем:*
*Зямной смалой як замацуем, —*
*(А цэмэнт слаўны тут, прыродны —*
*Для пабудовы нам прыгодны), —*
*Аж зложым горад, а ў ім вежу —*
*Высокую, каб мела межу*
*Да самых хмараў — аж да неба! . .*

*ПЫТАЛІСЯ:*

*— Ці нам якраз такой патрэба?*

*КАЗАЛІ:*

*— Няма ніякага сумніву!*
*Патомкам не паддасца дзіву.*
*А стане нам за пункт гранічны —*
*Здалёку бачны знак практычны:*
*Мы — будзем грамадой трымацца —*
*Замест блудзіць — дарма цягацца . . .*
*Каму-бо лазіць ёсьць ахвота, —*
*Ці дождж — балота,*
*Ці жар — сьпякота? —*

*ПЫТАЛІСЯ:*

*— А як яшчэ патоп мо' будзе,*
*Дык згінуць у даліне людзі . . . —*

*КАЗАЛІ:*

*— О, нам няма чаго баяцца —*
*Мы будзем мецъ куды схавацца!*
*Хай дождж ліецца цэлы год, —*
*Схавае вежа ўвесь народ!*
*І мы праславім сваё імя —*
*Аж славы той ніхто ня здыйме!*
*Ня трэба й Бога нам пытацца —*
*І ні маліцца, ні пужацца . . .*

*ЗЬМЯШАНЬНЕ ЯЗЫКОЎ*

*А што з цікавай тэй размовы?*
*Пустыя словы —*
*Бесталковы! . . .*
*Дай людзі рэзва завіхацца —*
*Тут цэглу фармаваць, старацца,*
*Там матар'ял цягаць, падносіць,*
*А вунь муруюць, болей просяць! . .*
*Гукаюць іншыя з бяды:*
*— Давай вады —*
*Вады —*
*Вады! . . —*
*Крычала ўлада востра, цьвёрда,*
*А вежа узрастала горда.*
*Работы аж па вушы мелі,*
*Аднак не дарма ўсе пацелі,*
*Бо вежа так расла, як дрэва,*
*Закруглена у права — ў лева:*
*Ад лесу стала ўжо вышэйша —*
*Дый як гара наймагутнейша! —*
*Наўкола ледзь-ледзь абыйсьці,*
*На верх аж страшна ўжо ўзыйсьці!*
*А хітрыя складалі пляны —*
*Скрозь у будове датрыманы —*
*І салі, калідоры, сходы —*
*Прастору, сьвету дый выгоды.*
*Анёлы з неба паглядалі:*
*Дзівіліся, «што-ж будзе далей?» —*
*У небе хоць парадак стройны,*
*Аднак сьвятыя — неспакойны:*
*Даўно пытацца ўжо хацелі*
*Дый Богу назаляць ня сьмелі . . .*
*Казаў БОГ:*
*— Як бачу, людзі ачмуцелі,*
*Якога-ж ліха захацелі?*
*Як дурань моцны плечы мае,*
*Яшчэ гарба сабе жадае . . .*
*МІХАЛ казаў:*
*— А я ім патрасу зямлю*
*І ў момант вежу развалю! —*
*А БОГ — яму:*
*— Міхал, ты момант пачакай:*
*Няхай пацеюць — не мяшай! —*
*ІЛЛЯ казаў:*
*— А я іх громам як пастрашу,*
*Пярун як дам, зраблю з іх кашу! —*
*Дадуць ад вежы лапаты,*
*Адскочуць зараз у кусты . . . —*
*АДАМ казаў:*
*— Стрымаць іх проста немагчыма!*
*Па мойму тут адна прычына:*
*Што ў тым народзе — адна мова:*
*Як правадыр ім скажа слова,*
*Бягуць як козы да казла,*
*Як ніткі ліпнуць да вузла . . . —*
*Казала ЕВА:*

*— У раі я была жанчына:*
*Я ўсіх грахоў была прычына;*
*А тут мужчыны вар'яцеюць —*
*Насупраць Бога ўсе пацеюць . . . —*
*А БОГ казаў:*
*Няхай будуюць, дзівакі,*
*Мы ім зьмяшаем языкі:*
*Такі цяжар ім будзе важкі,*
*Што распаўзуцца як мурашкі . . .*
*АНЁЛЫ ўсе:*
*— Хай будзе Богу вечна слава! —*
*І ўсе СЬВЯТЫЯ:*
*— Брава-брава! —*

— — —

*Зьмяшаў Бог мову сярод ночы:*
*Ледзь толькі расчынілі вочы,*
*Праз ноч набраўшы больш ахвоты,*
*Пабеглі рэзва да работы!*
*Не бедавалі анімала:*
*Ня зналі, што і як ім стала? —*
*Дык кожны лез на Вежу сьмела —*
*Хапаўся за ўчарайша дзела! —*
*А тэхнікі дый інжынеры*
*Крычалі-дзёрліся бяз меры . . .*
*Але-ж работнікі на тое*
*Рабілі ўсё зусім другое:*
*Хоць гаманілі вельмі многа,*
*Не разумеў ніхто нікога!*
*Паўстала грозна замяшаньне —*
*Вар'яцкае галасаваньне —*
*Сапраўдна «Вежа Бабілёнска» —*
*«Стаўпатварэньне Вавілонска!»*
*Яшчэ адзін, як што рабіў,*
*Другі мяшаў і ўсё валіў:*
*Там сталі цэгламі шпурляцца,*
*А іншыя за грудзі брацца!*
*У групах біліся да сьмерці,*
*Крычалі як у пекле чэрці! —*
*Аж кожны так пасьля ўсяго*
*Ішоў шукаць кутка свайго . . .*
*Назаўтра кожны валаводзіў.*
*Яшчэ да вежы хто падходзіў,*
*Дык паглядзеўшы, зьмеркаваўшы,*
*Што здатнае з сабой забраўшы,*
*Махнуў на ўсё сваей рукою*
*І да работы — ні нагою!*
*А вежа на дажджы стаяла,*
*На ветры рассыпацца стала*
*І ўжо ніхто, які там жыў,*
*Да вежы рук ня прылажыў . . .*
*Здалёку толькі паглядалі:*
*І з дзівам цяжка уздыхалі —*
*Аж думаў тут адзін-другі —*
*І добры, срэдні і благі:*
*— Зьлягла вялізная тут сіла!*
*Нашто нас ліха тармасіла? —*
*А мышы, паўзуны дый жабы*
*І скарпіёны, смаўжы, крабы*
*Там залажылі сваё царства,*
*Крукі й вароны — гаспадарства.*
*Гіены вылі там часамі,*
*Гукалі пугачы начамі . . .*
*А людзі ў прочкі, хто куды,*
*Разьбегліся на заўсягды . . .*
*Часамі бедны падарожны,*
*Пустыньнік мо' які набожны,*
*Што йшоў праз Вавілонскі межы,*
*А трапіў на сьлед слаўнай вежы,*
*Як бачыў, слупянеў ад дзіва! —*
*Яшчэ стырчэў касьцяк той крыва —*
*Вялізны, круглы дый разьлезлы. —*
*Валяліся наўкола цэглы*
*І ўсё занесена пяскамі. —*
*І так зацёрся сьлед з вякамі! —*
*Аж месца тое замялося*
*Дый памяткі не асталося . . .*
*Бо ў сіле, ў хітрасьці, ў багацьці*
*Нам нельга з Богам ваяваці!*
*Так пышны сьлед людзькі загіне —*
*Аж стане голая пустыня! . .*

## ВАВІЛОН У ЭМІГРАЦЫІ

*Як Бог хацеў і Сам, як знаў,*
*Людзкія языкі зьмяшаў:*
*Даў кожнаму народу мову —*
*Жыцьця падставу і аснову.*
*Хто мову родную зьнялюбіць,*
*Душу скалечыць, долю згубіць!*
*Як мова родная і ўласна*
*З сям'і і з хаты уцячэ,*
*Дык там нядоля ўвойдзе страшна:*
*Там бацька галаву таўчэ.*
*Аб сьцены б'ецца родна маці!*
*Яны да мілага дзіцяці*
*Сказаць ня могуць свайго слова . . .*
*Бо іхны сын — дачка «нямовы»!*
*Чужымі сталі ў сто працэнтаў:*
*Каб Бог сьцярог такіх мамэнтаў!*
*А дзеці з тых бацькоў сьмяюцца:*
*Бацькі ці плачуць, ці злуюцца,*
*Ды ўсё дарэмна, моцны Божа, —*
*Ні плач, ні злосьць ім не паможа!*
*Жыцьцё на лёдзе, а лёд сьлізкі, —*
*Трэ' пачынаць было з калыскі! . .*
*Хто-ж галавы не задурыў, —*
*Па людзку з дзецьмі гаварыў,*
*Дык Беларусь жыве ў тэй хаце —*
*Найбольшае сваё багацьце!*
*Чужая мова так як ежа,*
*Як рыба тухлая, нясьвежа,*
*Што можа аж на сьмерць затруціць! —*
*Чужая мова баламуціць*
*Жыцьцё ў сям'і, любоў і згоду —*
*Ганебну прычыняе шкоду! —*
*Лепш даў-бы Бог пажар, хваробу,*
*Што гоніць без пары да гробу! . . .*
*А сын жанаты, хоць багаты,*
*І знаць ня хоча мамы й таты! —*
*Дачка сароміцца прызнацца:*
*Баіцца — (подлая!) — спаткацца . . .*

*Калі-ж з бацькой хто занямог,*
*Пусьціць ня хочуць на парог,*
*Бо ўжо яны —*
*Вучоныя паны!*
*Дык будуць самі жыць адны...*
*Унукі ўбачуць: «Дзед жабрушчы!» —*
*Крычаць, як на ваўка у пушчы.*

— — —

*Быў эмігрант, а зваўся ён*
*Так: «Папіхач», Імя — «Сымон».*
*А пра сябе ён так казаў:*
*(І я даслоўна запісаў): —*
*— Як мы ў Італіі стаялі,*
*Там страшна й жорстка ваявалі,*
*Дык я адразу — тут і зара —*
*Па італьянску стаў «парлярэ»,*
*Бо простай мовы я ўстыдаўся,*
*Да польскай крышку прызнаваўся.*
*За італьянску браўся трэзва,*
*Як рэдзьку з перцам, грыз я рэзва!*
*Пасьля праз горы і праз лес*
*Я аж у Аўстрыю залез,*
*Дык я зьдзівіўся там зьнянацку —*
*Няма ў іх мовы аўстрыяцкай!*
*Там па нямецку людзі ўсе,*
*Як гусі, «дзэр-дэр» па аўсе.*
*Са мною здарылась навінка:*
*Я ўзяў-жаніўся з украінкай!*
*Супольны польскі быў язык*
*Дый ад яго я ўжо адвык.*
*Яна па польску не хацела,*
*Па беларуску ня умела,*
*Дык па нямецку мы брахалі*
*І так дзяцей мы гадавалі —*
*Ні беларусаў, ні палякаў —*
*На самых чыстых аўстрыякаў!*
*Душа ў нас іншая і скура,*
*А ў іх вышэйшая культура...*
*А жонка — (сказаць праўду-гэта) —*
*Як я — разумная кабета.*
*Мы раду з ёй як учынілі,*
*Бах, у дарогу — аж у Чылі!*
*Праз акіяны, дый праз моры*
*Перабрылі. А ў Чылі — горы:*
*Там усялякай досыць дрэні*
*І двойчы ў дзень зямлетрасеньні!*
*У самае Сант-Яга ўлезьлі,*
*А стуль на поўдзень везьлі-везьлі;*
*А там — у фармы,*
*Дзе працавалі ледзь не дарма!*
*У Аўстрыі няма аўстрыйскай,*
*А ў Чылі дык няма чылійскай —*
*Знайшлі мы мову скрозь гішпанску —*
*Такую мелі ласку-панску!.. —*
*Нямецку мову ўраз прагналі —*
*Дый — па гішпанску загукалі!*
*А дзеці з радасьці сакочуць*
*І з намі гаманіць ня хочуць:*
*Гаворым з бабай польска-панскім,*
*То беларуска-італьянскім;*
*Крыху нямецка-украінскім,*
*Гішпанска — нібыта — чылійскім, —*
*Паўстала «Вежа Бабілёнска»,*
*Ці акадэмія Смаргонска!..*
*Так пяць гадкоў пацелі ў Чылі,*
*Пакуль нас добра замарылі;*
*А хоць работа лезла розна,*
*Ніяк нідзе пражыць ня можна! —*
*Тады мы з жонкай парашылі*
*Падзякаваць за дрэнны Чылі,*
*Бо толькі Бог адзіны ведаў,*
*Як я ня сьнедаў,*
*Не абедаў!*
*А піў пустую нейку «мату» —*
*Такую іхнюю гарбату...*
*Махнулі мы рукой на Чылі —*
*Давай — паехаць у Бразылю!*
*Бязьмежная наскрозь дзяржава*
*Нам будзе доля больш ласкава...*
*Ізноў спаткаў я фокус новы:*
*Ніяк няма бразыльскай мовы!*
*Калі захочаш з людзьмі зжыцца,*
*Дык партугальскай трэ' вучыцца.*
*А партугальска — з ласкі панскай —*
*Разоў сем горша ад гішпанскай.*
*Дый нашы дзеці — проста — шэльмы!*
*Дык палюбілі яе вельмі!*
*А я дарэшты з толку зьбіўся:*
*З пярэдніх моваў шмат забыўся*
*І ў новую пятлю ўчапіўся...*
*Сем моваў мей ужо ў запасе,*
*Дык і пачаў у тым-жа часе*
*Успамінаць*
*Дый раўнаваць:*
*Там — Беларусь, там родна хата,*
*А тут — Бразылія багата. —*
*І што з таго? Бо ў бруху пуста,*
*А ў галаве — гарох з капустай!*
*Пачаў малоць я тымі ўсімі —*
*Сваімі мовамі й чужымі —*
*Няшчасьце! Ўсе наўкол сьмяюцца,*
*Ня хочуць слухаць, то злуюцца.*
*А гэты стыдзіць, а той лае,*
*А іншы з хаты выганяе. —*
*А я-ж ня знаў, што хто гародзе,*
*Як рак дурны на гладкім лёдзе! —*
*Змоўк я: сядзеў як анямеўшы,*
*Або брадзіў, як ачумеўшы...*
*Аж зьмеркаваў я: — Моцны Божа!*
*Хай твая ласка мне паможа:*
*Я-ж маю мову сваю родну —*
*Такую мілую, народну,*
*Якой з маленства мамка міла*
*Мяне любіла й навучыла! —*
*Дык дай, як кажуць, «проста з мосту»*
*Па беларуску дый па просту —*
*Казаць стаў бяз чужацкіх словаў —*
*Зусім ня путаў іншых моваў —*
*Ажно самога ўзяло дзіва,*
*Бо не глядзеў ніхто больш крыва!..*

*Аж людзі ўраз паразумелі —*
*Па людзку зразумець умелі —*
*І украінцы дый палякі,*
*Расейцы, чэхі, дый славакі,*
*Жыды, баўгарцы, нат і немцы*
*І македонцы дый славенцы, —*
*Найбольш, што ў нас вайной сядзелі,*
*Мяне патрошку разумелі...*
*А кожны зразумець стараўся —*
*З мяне ніхто больш ня съмеяўся! —*
*Хоць я жыў доўга у Бразылі,*
*Ніяк іх мовы не асіліў:*
*Ну, дзеці сталі партугальцы,*
*Дражнілі толькі нас «на пальцы».*
*Абы да хаты толькі ўлезьлі,*
*Крычалі злосна: «Есьці-есьці!»*
*І ў момант з хаты уцякалі,*
*А дзе бывалі,*
*Не казалі!..*
*А жонка сьвету ўжо ня бача:*
*Па украінску толькі плача,*
*Або сьпявае так тужліва —*
*Жаль агартаў усіх, на дзіва!*

— — —

*Ну, ў нашай хаце непаладак,*
*Або сказаць — такі парадак —*
*Так у падзеях нашых горбе,*
*Як-бы у тэй дзядоўскай торбе!..*
*Скруціліся ўсе справы Божы,*
*Што дзеці родныя — варожы, —*
*І дражняць нас на кожным кроку —*
*І зблізку, ў вочы і з далёку! —*
*Сын старшы завярнуўся ў Чылі.*
*Нам добры людзі гаманілі,*
*Што ён зрабіўся зноў чылійцам —*
*(Перш быў ён немцам ці аўстрыйцам,*
*А тут крыху ўжо — бразылійцам);*
*Дык, значыць, з партугальскай мовай,*
*Як з падставовай*
*І з асновай...*
*І так на зьмену сын пісаўся,*
*Пакуль для нас чужынцам стаўся...*
*Дый сёмы год да нас ня піша. —*
*Як мы пісалі, ён ня слыша!..*

— — —

*І меншы паказаў язык:*
*Ну, я да гэтага прывык —*
*І да грымасаў і да знакаў:*
*Хто падрасьце, не кажа: «Дзякуй!»*
*Дачка, якраз, знайшла прычыну*
*Дый замуж зьбегла ў Аргентыну —*
*Скруцілася, бач, за японца,*
*Што прыляцеў з усходу сонца:*
*Ісьці ў касьцёл не мае часу,*
*А моліцца да «Матарасу». —*
*Так па гішпанску нам пісала,*
*Але на гэтым перастала...*

— — —

*Гісторыя мая такая —*
*«Сабачая»! Ці мо' якая?*
*Казала баба, мая міла:*
*— На што, на што іх нарадзіла?*
*Каб заблудзілі пустапасам,*
*А мне каб плакаць дрэнным часам...*
*А я-ж кажу ёй: Сьціхні, баба!*
*Бо ты і так, брат, стала слаба:*
*Іх, значыць, чорт паганы спутаў,*
*А нам з табой Бог даў пакуту,*
*Бо на чужынцаў іх вучылі —*
*Сабе тым хвігу зарабілі. —*
*Эх, награшылі мы багата —*
*Скрозь наша пыха вінавата:*
*Хоць працавалі на іх многа,*
*А не вялі аднак да Бога,*
*Ім не пайшло ўсё на здароўе, —*
*Нам асталося безгалоўе!..*
*— Ня плач, ты баба, сьлёзаў шкода!*
*І добра, што між намі згода:*
*Няхай-жа сьлёзы больш ня льюцца —*
*На старасьць лепш нам прыдадуцца.*
*Пацешыць хай нас воля Божа:*
*Як сонца зайдзе, Бог паможа!*

а. Я. Гэрмановіч

Лёндан, 18. VI. 1972.

◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊◊

# Для цікавасьці і навукі

Кіраўнік Сэнацкай Камісіі Заграмічнай з Арканзас, Вільям Фульбрыхт, у Злучаных Штатах Амэрыкі агітуе супраць амэрыканскіх радыёстанцыяў, «Вольнае Эўропы» і «Свабоды». Ведама, што Савецкі Саюз заглушае сваімі станцыямі голас гэтых станцыяў амэрыканскіх. Але іх стараюцца бязлікія масы савецкага грамадзтва слухаць, бо прынамсі могуць даведацца, што ў Саюзе дзеіцца. Бо сам Савецкі Саюз не падае чыстых і сапраўдных здарэньняў з жыцьця на Ўсходзе: або зусім таіць падзеі няпрыемныя для камуны, або перайначвае дый займаецца вечнай агітацыяй. Дык грамадзяне шукаюць вестак з заграніцы, а радыё «Свабода» і «Вольная Эўропа» спэцыяльна падае самыя важныя здарэньні з жыцьця Саюзу і ня лучыць да гэтага ніякае агітацыі.

Тады-ж Савецкі ўрад стаў рабіць націск на Амэрыку, каб яна спыніла дзейнасьць сваіх — гэтых дзьвюх — станцыяў. І вось той сэнатар Фульбрыхт, спачуваючы Саветам, падняў голас на ўвесь сьвет, што нельга «дражніць Саветаў». А тымчасам ці яму ня ведама, што Саветы вядуць куды большую прапаганду супраць Амэрыкі ў сваім радыё: крычаць на 80 мовах штодзень супраць Захаду, падбіваючы заходнія народы да рэвалюцыі. Яны робяць тое, як кажа байка пра кацёл, які сьмяяўся з гаршка, што той чорны. А гаршчок яму адказаў: «Ты сто разоў большы і чарнейшы!» Дык відаць, што сэнатар

Фульбрыхт сам добра падмаляваны на чырвона, калі ня бачыць сапраўднага палажэньня на Ўсходзе і на Захадзе.

### ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАЎВАГІ

Рана ўстаўшы, адразу ўважліва паражагнацца і лёгенька усьміхнуцца — будзе ўвесь дзень лягчэйшы і ўдалейшы. Папрабуйце, Чытачы, і нам скажыце, як у Вас выходзіць? Але не дай, Божа, рана пасварыцца — увесь дзень будзе змарнаваны!..

### ЛЯЎША І ЛЯЎШУН

Нат і вучоныя не маглі знайсьці прычыны, чаму некаторыя дзеці перайначвалі парадак — былі «ляўшунамі»: на іх сварыліся й каралі за гэта. А таварышы празывалі і дражнілі: «ляўша!» А нават спатыкаецца беларуская фамілія «Ляўша», якую перараблялі на «Левша».

Аднак аказваецца, што леваручнасьць — гэта не капрыз дзіцяці, а такая прырода, дык нельга ні сварыцца, ні забараняць: няхай сабе есьць ці піша левай рукой — не вялікая бяда! А ламаць натуру можа быць дзіцяці шкодна і крыўдна, бо ў ляўшы іншая будова цела і ўклад нэрвовых вузлоў. Значыць, такі ляўша, пераламаны на «праўшу», траціць фізычна і духова. Дый заўважана, што ў паўночных краёх, дзе жыве найбольш людзтва сьвету, людзі маюць уклад праваручны, а на паўдзён ад экватара здараецца значна большы процант леваручных. І вось там прыняўся спосаб пісьма з права на лева, калі мы пішам з лева на права. А ля экватара — зьяўляецца пісьмо зьверху ўніз.

Наагул, як з дзівам бачуць прыезджыя, на паўдні і сонца «ходзіць наадварот і месяц плавае на небе, як стане маладзіком, быцца місачка па вадзе, калі ў нас ён стаіць шторцам, дый зіма — летам, а на Каляды — сьпякота. Дык і народы тыя больш склонныя да ляўшыні; а нават і ў эмігрантаў больш «ляўшуноў», чым у Эўропе.

### СКАРГІ БАЦЬКОЎ

«Дзеці і моладзь — непаслушныя, гордыя, упартыя: цяпер зусім ня тое, што бывала даўней!..» «Так скардзацца скрозь па сьвеце на цяперашнюю моладзь. Гэта слушна! Але вось цікава, што якраз такую скаргу адчыталі вучоныя ў егіпецкіх ерогліфах — у пірамідах. А напісана было 4 тысячы гадоў таму назад. — Дык што на гэта скажуць амэрыканскія бацькі!

---

# Думкі з лагераў на ўсходзе

Нельга пераносіць нязноснае, немагчымае й чаго нельга й падумаць! Ці-ж можа папраўіцца народ растаптаны... які адмовіўся ад думак, ад памяці...? У Платонава, выдатнага чалавека і пісьменніка, ёсьць расказ аб народзе, што гінуў з голаду. Калі яго накармілі, ён перастаў быць народам. Дык голад яшчэ не самое страшное выпрабаваньне.

Лёгка зразумець, што нас пазбавілі памяці, думаньня і слова, але я папрабую аб'яcьніць, што ад нас адабралі і час. Калі жывеш у вечнай трывозе, прыслухоўваешся да машынаў і званкоў, пачынае адчувацца кожная сэкунда, кожная мінута. Яны цягнуцца, набіраюць вагі і гнятуць грудзі, як волава. Гэта — ня псыхічны, але фізычны стан, асабліва ўначы. Мінуты валакуцца, а гады імкнуцца з дзікай шпаркасьцяй дый ад іх не астаецца нічога, акрамя разяўленай пустэчы. Дваццаць гадоў ад сьмерці Мандэльштама мне ўяўляюцца комам, бясформенным і недарэчным, у якім час не праплываў, а клеіўся дый пасьля разьбіваўся ў нішто.

Я ненавіджу вайну, але бачу сэнс у абароне радзімы, якой-бы яна ня была... пасьля вайны пачалі запаўняць лягеры нядаўнымі абаронцамі радзімы. Падумаць, што лепшы час нашага жыцьця — вайна, калі гэтулькі забівалі; мы былі галодныя, а сын быў у катарзе. Зразумейце, як мы жылі, калі вайна прынесла псыхічную палёгку! А мне істотна тое, што час у маім жыцьці скамечаны, думкі недакончаныя, а вершы ненапісаныя. Недакончаная, скажоная работа... пачаткі і канцы... Мізэрнае пакаленьне, якое растраціла ўсё, што асталося нам ад продкаў, — мы пухлі ад голаду й ледзь цягалі ногі і праклінал жыцьцё... лягер — толькі завяршэньне таго, што цягнулася праз жыцьцё.

(З «Другой кнігі» Надзеі Мандэльштам)

— — —

«Дахадзяга» — гэта сьмерць на хаду. Людзі гасяць узрывы трывогі і спадзяюцца на будучыню. Такога разьліву самахвальства, як у нашых пакаленьнях, ніхто ня зможа сабе ўявіць..

Госпадзі, памажы мне, бо я і за сябе не магу паручыцца! Як-жа я магу не баяцца? Баюся я не за сябе, а за людзей. Думаць ніхто ня хоча... Мы — проста людзі, дык адкуль нам знаць, як мы будзем паводзіць сябе ў нялюдзкіх умовах?

— — —

### ЯК ЮРЫ ЦІТОЎ ВЫЕХАЎ З САВЕЦКАГА САЮЗУ

(«Русская Мысль», 29. VI 1972, № 2901)

У апошнім часе з Саюзу выпускаюць лягчэй, нават выганяюць тых, што не падабаюцца каму-

не. І гэтак Ю. Цітоў, мастак-маляр, якому 20 гадоў немагчыма было выехаць, цяпер аказаўся з жонкай у Рыме! Мала таго, пазволілі яму вывезьці 62 малюнкі абстрактнага і рэлігійнага зьместу. У Саюзе яму не пазвалялі ўладзіць выстаўку сваіх малюнкаў і спадзяваўся за граніцай дагодна іх збываць, каб мець зашто ўтрымлівацца, бо іншых сродкаў ня было. І вось што ён расказаў: «Мы былі двойчы шчасьлівымі, што едзем і вывозім малюнкі. У Маскве іх пераглядзілі і моцна ўпакавалі, што не асталося й шчыліны. Але ў Рыме мы ўбачылі, што палотны былі аблітыя растворам сернай кіслаты. Гэтак усе малюнкі выкананыя на палотнах змарнаваліся... (Але гэтак няўхільна змарнуецца і камуністычнае царства!). Гэты зьвярыны акт учынены таму, каб не даць людзям свабоднага сьвету пабачыць мае малюнкі. Рэлігійна-містычныя ідэі, якія знайшлі адбітак у маіх малюнках, раскрываюць сутнасьць камуністычнага пекла, а выйсьці з якога магчыма толькі зьвярнуўшыся да духоўных вартасьцяў і да Бога. Дык гэта была й прычына, якая ўзбудзіла ў іх шатанскую дзейнасьць. Апрача таго, мне здаецца, гэта была іхняя нікчэмная помста . . .»

---

# Прыгодныя прыслоўі і прымаўкі

Як грошы ў кітайскім банку — не прападуць, але іх не атрымаеш!

Мала дурні там памогуць, дзе й разумныя ня могуць.

Трудней жыць дурному ў пушчы, як сьляпому з нявідушчым.

Ах, Калюмб, ты столькі гараваў
Калі Амэрыку Эўропе адкрываў!
Брэжнёў — Касыгін — рад —
Амэрыку пратнаць назад!

Сабака віляе хвастом з радасьці, а кот — са злосьці.

Улада псуе людзей: абсалютная ўлада псуе абсалютна! (Дыктатура).

Праўды лепш не гаварыць голасна, але маскоўская «Праўда» крычыць на ўвесь сьвет (аб сваей няпраўдзе).

Чалавек, які не мае ворагаў, не мае гонару і не варты мець прыяцеляў.

Шчасьце спрыяе адважным.

Без праўды няма свабоды, але толькі няволя.

Лягчэй стаяць каля калекі, чым самому быць калекім.

Суджэньне ворага бывае лепшым, чым прыяцеля.

Лепшы бязбожнік, чым вернік, які служыць і Богу і чорту.

Самае агіднае чалавеку ў жыцьці — не забойствы, не хваробы, ня беднасьць, ані гора, але н у д а ! (Бо яна вядзе да ўсяго таго . . .).

О, мастак! Твая сіла ў адзіноцтве.

Навука малодзіць душу, зьмяншае гаркоту старасьці.

Памяць аб багатых гіне разам з імі, а памяць аб мудрых ніколі ня чэзьне.

Вучыся ў глуханямых у выразнасьці ў руках.

Сіла заўсёды жадае перамагчы сваю прычыну, але, перамогшы, памірае.

Вайна — самае зьверскае вар'яцтва!

У Маскве такая свабода, што й глуханемы мусіць даваць свой голас.

# Сакавітыя жарты

Пацыентка: — Вы казалі паказаць язык. Я так трымала яго 5 мінут, а вы й не паглядзелі на яго.

Доктар: — Ня было патрэбы. Я толькі хацеў спакойна напісаць рацэпту. ((Івнінг Ньюс).

«Як гэта сталася, што вы знайшліся ў войску?»

1-ае: Я хацеў ваяваць. 2-ое: Я думаў, што вайна дапаможе мне да фізычнага разьвіцьця. 3-яе: Жандары прышлі дый забралі. (Жэнэраль Корпорэйшэн).

«А як ты выкруціўся з войска?»

«Ну, я прыкінуўся вар'ятам!»

«Махлюеш! Як я ведаю, дык у польскім войску ўсіх такіх выкрывалі і жорстка каралі . . .».

«Дык паслухай: Найперш я ўсюды гаварыў вылучна па беларуску і кажнаму казаў: «ты!» — аж паслалі мяне да доктара-экспэрта. Дык я адразу стаў назойліва прасіць папяроску, якую ён трымаў у зубах. Пасьля я ўсюды бегаў і ніколі спакойна не хадзіў і гэта палякам паказалася моцным доказам, бо беларусы якраз заўсёды павольна ходзяць. А я ўсюды сьмяяўся, усіх дражніў і сам злаваўся і г. д. Значыць, мяне й выпусьцілі!».

«Чакай! Але-ж цябе маглі, сумысна звольніўшы, пасьля падлавіць?».

«О, я ўжо нічога не баяўся, бо пасьля самога экспэрта палічылі-б дурным, што мяне прызнаў вар'ятам. А ён — паляк, дык яму гонар не пазволіў-бы прызнацца да памылкі! . . . Я-ж іх добра знаю». (З сапраўднага здарэньня ў Дзісьненскім павеце).

Доктар: «Мы маем многа ворагаў на гэтым сьвеце».

Знаёмы: «А ці ня болей на тым сьвеце?».

«Абудзіся, абудзіся!» — крычыць жонка на хворага мужа. — «Прымі лякарства, што доктар прыслаў табе на сон». (Ворльд Дігест).

Разумным мужчынам ёсьць той, хто патрапіць зарабіць больш, чымся жонка выдаць. — А разумнай жанчынай ёсьць тая, якая патрапіць знайсьці такога мужа. (Марыюс, Парыж).

Жонка — па дарозе з закупаў — да мужа:

«Маеш, трымай дзіця, а давай мне кошык з яйкамі, бо ты такі няўважлівы, што можаш выпусьціць і разьбіць».

З часапісу «НАША ЦЕРКВА» (украінская), № 1—2 (98—99) зьмяшчае вельмі цікаўны рэестр пад тытулам: «Як дзеякія паміраюць».

Каралі — сходзяць з пасаду.

Судзьдзі — становяцца на Божы суд.

Адвакаты — моўкнуць навекі.

Натарыюсы — давяршаюць апошні акт.

Лекары — йдуць туды, дзе няма «ні болю ані ўздыханьня».

Палітыкі — ўцішаюцца.

Партыйныя — адканспіроўваюцца.

Настаўнікі — канчаюць лекцыю.

Купцы — лічаць апошнія хвіліны.

Даўжнікі — аддаюць Богу духа.

Спартсмэны — выцягваюць ногі.

Жыды — пераходзяць на Абрагамава ўлоньне.

Украінцы — ня мелі сілы ўстаяцца.

(Пераклад — В. Адв.)

ЗАЎВАГА:

Шкода толькі, што дасьціпны рэпарцёр не заўважыў там беларусаў! А ім наадварот — няма й там «вечнага супачынку», бо за сваю марудлівасьць мусяць накручваць сонца, цягаць хмары, папіхаць месяц, дзьмухаць на вецер, а дождж і сьнег цадзіць праз сіта. І вымятаць з неба ўсходнюю самапэўнасьць, паўдзённую няўстрыманасьць дый заходнюю фанабэрыю . . .

